„Беларускі настаўнік” гэта адукацыйны дапаможнік перш-наперш настаўнікам беларускай мовы ў польскіх школах. Але не толькі. Хочам, каб наш часопіс дапамагаў усім зацікаўленым беларускай адукацыяй, напрыклад, гісторыкам і географам, якія ўводзяць на ўроках элементы навучання гісторыі і геаграфіі Беларусі, але таксама Падляшша. Каб пашыраў сярод настаўнікаў веды пра Беларусь і азнаямляў з новымі метадамі навучання. Хочам, каб гэта была таксама настаўніцкая платформа абмену меркаваннямі, праблемамі, досведам.

Часопіс задуманы Аб'яднаннем у карысць дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову АБ-БА. Яго ідэя ўзнікла ў час працы над „Стратэгіяй развіцця асветы беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы”.

„Беларускі настаўнік” выходзіць раз на паўгода. Запрашаем да супрацоўніцтва. Калі маеце цікавыя сцэнарыі ўрокаў або пазаўрочных заняткаў, урачыстых лінеек, школьных мерапрыемстваў, экскурсій, тэатральных спектакляў, калі ў Вас ёсць цікавыя гульні і дыдактычныя матэрыялы, прапануйце іх, з дапамогай нашага часопіса, іншым. Калі ў Вас узніклі пытанні, звязаныя з навучаннем беларускай мове, пішыце.

Матэрыялы і пытанні дасылайце на наш электронны адрас **ab_ba@poczta.onet.eu**. Часопіс „Беларускі настаўнік” даступны ў Вашых школах і на нашым сайце **www.ab-ba.com.pl**.

# Ад рэдактара



Аліна ВАЎРАНЮК

## Навеянае юбілеем

Дваццаць гадоў няспынна перажываю цудоўную прыгоду. Што яна важная не толькі для мяне — засведчылі тыя, хто сабраўся 17 верасня ў клубе „Змена клімату" на адзначэнні 20-годдзя навучання беларускай мове ў школах Беластока. Пра гэта пішуць на наступных старонках мае (яшчэ так нядаўна) вучні, а сёння ўжо дарослыя асобы. Пра гэта ў нумары выказваюцца бацькі былых і цяперашніх школьнікаў. У гэтым працэсе больш ці менш актыўна паўдзельнічалі і ўдзельнічаюць сотні асоб. Дзеля каардынацыі розных адукацыйных дзеянняў у 2006 годзе заснавалі мы Аб'яднанне ў карысць дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову АБ-БА і дзякуючы гэтаму ўвайшлі на значна вышэйшы арганізацыйны ўзровень, чаго доказам з'яўляюцца хаця б „Стратэгія развіцця беларускай асветы ў Польшчы" і „Беларускі настаўнік". Адным словам — ёсць чым падзяліцца з чытачамі, перш-наперш з калегамі-педагогамі. Таму мы вырашылі гэты выпуск поўнасцю прысвяціць навучанню беларускай мове ў Беластоку.

У нумары не толькі ўражанні ды юбілейныя эмоцыі. Пералічваем канкрэтна зробленае АБ-БАй і паказваем, што можна рабіць супольна з бацькамі па-за ўрокамі для дзяцей, каб не толькі развіваць іх веданне роднае мовы, але і ўмацоўваць беларускую тоеснасць. Славамір Іванюк да падзей, у якіх мы ўдзельнічаем і таму не маем да іх адпаведнай дыстанцыі, прыклаў шкельца даследчыка і вызначыў ім месца ў гістарычным працэсе. Думаю, карысным будзе таксама пазнаёміцца з новым „Распараджэннем міністра нацыянальнай адукацыі", датычным навучання моў нацыянальных меншасцей. Таму перадрукоўваем важнейшыя яго пункты, якія ў сувязі са зменай школьнай сістэмы ў Польшчы, уводзяць змены ў працу настаўнікаў беларускай мовы.

Эмоцыі ўсё-такі важныя. Таму я і наважылася назваць сваю працу „цудоўнай прыгодай". Не толькі з нагоды юбілею. Умацоўвае мяне ў гэтым перакананні штогадовы выезд на Фестываль музыкі Маладой Беларусі „Басовішча", сярод арганізатараў якога толькі лічаныя адзінкі не былі маімі вучнямі. Думаю, што кожны з нас — настаўнікаў — мае многа прычын, каб ганарыцца сваімі вучнямі, каб быць задаволеным сваёй працай.

Калі наша выданне выкліча станоўчыя эмоцыі, — а яшчэ лепш, калі зможа стаць у нечым інспірацыяй — рэдакцыя будзе лічыць сваё заданне выкананым.

**Аліна ВАЎРАНЮК**

# Пра значэнне ўрокаў **беларускай мовы!**



Фота Ганны Кандрацюк

Былыя вучні. 17.09.2017 г.

Лідка Пякарская: — Група маладых бацькоў 20 гадоў таму прыдумала, каб навучаць сваіх дзяцей беларускай мове. Думаю, што ніхто тады не думаў, як вартасным гэта стане ў нашым жыцці. Хачу сказаць пра тое, што я для сябе вынесла за гэтыя гады.

Па-першае — чытаць кніжкі. І бацькі, і пані Аліна ўвесь час казалі, што разумныя дзеці чытаюць кніжкі. Аднак мне падаецца, што больш за паню Аліну немагчыма чытаць.

Па-другое — тэатральныя гурткі і самыя важныя для мяне „Падляшскія хронікі". Тысячы разоў мы ўсе казалі, што „Хронікі", гэта было тое, што нас прывяло да гэтага, кім мы сталі. Навучылі як гаварыць з бабулямі ды дзедкамі, з іншымі людзьмі, як іх слухаць. І як пераказаць гісторыю, каб яна не згубіла сваю вартасць. У час „Хронік" я таксама задумалася над тым, што гэта якраз жыццё нашых продкаў стварыла нас такімі, якімі мы сталі. Гэта проста наша гісторыя. Яшчэ адна важная навука: ДЫКЦЫЯ! Каб ніколі не забываць, што „к" на канцы слоў мусіць прагучаць.

Па-трэцяе — мае сябры, без якіх жыццё было б сумным.

Хачу яшчэ ўспомніць некалькі хвілін з часоў вывучэння беларускай мовы:

**1** Святочная сустрэча ў Прэзідэнцкім палацы! Не кожны меў нагоду правесці дзень са святой памяці Марыяй Качынскай. А мы так :)

**2** Летнікі: тут цяжка расказаць адну гісторыю, але па-мойму гэта была адна з лепшых думак „Бацькоў Беларускасцю Апантаных".

**3** Выступы „Хронік”: мінус 20 градусаў у Супраслі, песня „Back in time” у час выступу, здзек з усіх нашых памылак. Аднак найбольш запаў мне ў памяць выступ дзень пасля пахавання майго дзядулі, якога гісторыю я расказвала. Мама ды бабуля сядзелі ў першым радку, а я мусіла ў той час расказаць гісторыю чалавека, які некалькі дзён назад ад нас адышоў. Думаю, такія моманты нас фармуюць! І дапамагаюць зразумець, што дзякуючы нам, людзі, якіх ужо з намі няма, цэлы час жывыя ў гісторыях.

Дзякую за ўсё, беларуская мова! Жыве Беларусь!

Юля Скаўронская: — Успамінаў у мяне многа, замнога, каб пісаць пра ўсе, таму напішу пра адно з найпрыгажэйшых. Ідзе пра зімовы вечар некалькі гадоў таму. Сабраліся мы на сход „Хронік” разам з бацькамі. Навошта? Тады яшчэ не ведалі, але трэба, то трэба. Там мы даведаліся, што ў нас з'явілася магчымасць паехаць у Злучаныя Штаты Амерыкі і паказаць „Ой даўно-даўно”. Першая думка: гэта напэўна жарт, аднак гэта была праўда. Слёзы, смех, чаго там не было! Здзейснілася наша мара. Мара, аб якой мы спявалі ў створанай намі песні. У ёй мы пералічвалі мясцовасці, у якіх мы былі са спектаклем. Пасля Пасынак, Гарадка і Бельска на канец гучала: Брадвей! Гэта адзін з успамінаў, але з мараллю: спявайце людзі, можа і вам пашчасціцца.

Гаўрыіл Скаўронскі: — Калі падумаць пра ўсе выезды, летнікі, тэатральныя заняткі, то не ўмею сказаць, што найбольш мне падабалася. Усе заняткі лічу так сама важнымі, бо дзякуючы ім многаму я навучыўся, сустрэў многа людзей і перажыў з сябрамі адны з найлепшых хвілін у маім жыцці.

Наталька Кандрацюк-Свярубская: — Я перш за ўсё добра ўспамінаю тэатральны гурток. Думаю, што заняткі ў ім памаглі нам стаць адважнымі асобамі, якія не маюць ніякіх праблем, каб выступіць у школе ці перад тэлекамерай. Гэта была таксама вельмі добрая гульня. Не памятаю, каб хтосьці з нас быў прымушаны да заняткаў бацькамі. Помню, што калі ў адным школьным годзе я не магла ўдзельнічаць у гуртку па прычыне заняткаў у музычнай школе, я была вельмі расчаравана і зайздросціла сябрам, якія іграюць у новай пастаноўцы. У наступным годзе я зрабіла ўсё, каб зноў стаць членам тэатральнага гуртка.

Юліта Нікалаюк: — Я вывучала беларускую мову ад садка да ліцэя. За гэты час многа чаго здарылася, многа ў чым я прымала ўдзел. Заняткі, якія найлепш успамінаю, гэта аднак тэатральны гурток, дзе мы маглі выказацца як акцёры. У двух спектаклях я была бабулькай і як сёння памятаю, як душна мне было ў карычневым паліто. У памяці запісалася мне таксама, як пасля кожнага выступу пані Аліна забірала нас на марозіва, ці як мы паехалі з „Зялёным востравам банана” ў Гданьск.

Вельмі важным, не толькі для мяне, але для ўсёй сям'і Нікалаюкоў быў дзень 28 сакавіка 2003 года. У гэты дзень адбываўся конкурс „Роднае слова” і здаецца мне, што я атрымала ў ім першае месца. Самым важным з'яўляецца аднак тое, што ў гэты дзень нарадзіўся мой брат Арэк. Памятаю як у залу ўвайшоў мой тата і аб'явіў добрую навіну. Радасць, якую я магла дзяліць з сябрамі, іх прысутнасць у гэтай хвіліне была для мяне непараўнальнай ні з чым.

Заняткі па беларускай мове мелі вельмі вялікі ўплыў на маё жыццё. Паказалі мне, якім цікавым з'яўляецца свет, як многа

розных людзей жыве на зямлі і як важная памяць пра свае карані і продкаў.

Ніна Ваўранюк: — Успомніць усё не хопіць часу. Цэлае дзяцінства — гэта летнікі, экскурсіі ў Беларусь, праект „Вялікае Княства Літоўскае", „Басовішча", тэатральны гурток, навука беларускіх песень ды танцаў. Калі я пра гэта ўсё расказваю знаёмым з „небеларускага" асяроддзя, ім цяжка паверыць, колькі ў мяне было шчасця. Бо ўсе гэтыя праекты, гэта не толькі новыя веды, уражанні, а перш за ўсё людзі. Мелі мы нагоду пазнаёміцца са шмат якімі цікавымі людзьмі, але больш за ўсё — мы пасябравалі адзін з адным. У мяне няма лепшых сяброў за гэтых, з якімі я пазнаёмілася яшчэ ў дзіцячым садку і з гэтага часу заўсёды трымаліся мы разам. Калі б я мела вырашыць, якія з успамінаў лічу самымі важнымі гэта былі б:

— „Падляшскія хронікі" — найбольшы праект, дзякуючы якому мы дакладней зразумелі хто мы, кім былі нашы дзяды і прадзеды. Мяне асабіста гэты праект шмат чаму навучыў. І не ідзе мне пра цвёрдыя веды, бо самае важнае было поўнае зразуменне: адкуль я, чаму ў хаце не гаворым на польскай мове і чаму беларуская культура заўсёды здавалася бліжэйшая майму сэрцу за польскую. Таму вельмі ганаруся гэтым праектам і думаю, што многіх людзей, нават (а можа і перш за ўсё?) дарослых, шмат чаму можа ён навучыць. А і са спектаклем нас запрасілі ў Нью-Ёрк, дзе мы пазнаёміліся з многімі беларусамі, м.ін. з Алай Орса-Рамана ці Зянонам Пазьняком.

— Летнікі — з першых класаў падставовай школы пачатак канікул абазначаў адно: экскурсію ў адну з падляшскіх мясцовасцей, майстар-класы з цудоўнымі людзьмі, супольныя гульні, шмат пазнаных песень, танцаў, навука вышыўкі




Дэкламатарскі конкурс «Роднае слова» 2001 г.

(найбольш папулярны матыў: надпіс „НРМ”). Цяпер разумею вартасць гэтых паездак, а ў дзяцінстве гэта былі перш за ўсё добрая забава, праведзены час з сябрамі, многія жарты і гісторыі.

— Выезды ў Тэрэміскі — усё пачалося пры нагодзе „Падляшскіх хронік”, а пазней Тэрэміскі сталі нам адным з важнейшых месцаў. Пані Кася, Дануся, пан Павал, а таксама многія іншыя людзі, з якімі мы пазнаёміліся пры нагодзе выездаў — дзякую Вам! Думаю, што нас усіх візіты ва Універсітэце Яна Юзафа Ліпскага ў пэўным сэнсе выхавалі. А найбольш за ўсё хачу падзякаваць маме і цёці Басі: гэта ўсё дзякуючы Вам. Дзякуючы таму, што 25 гадоў таму адваявалі магчымасць навучання беларускай мове ў Беластоку. І што самога навучання мове Вам не хапала. Вы нам адкрылі цэлую беларускую культуру, паказалі хто мы, паказалі цудоўныя месцы і яшчэ цудоўнейшых людзей. І для многіх дзяцей Вы сталі другімі мамамі. Дзякую за найлепшае дзяцінства ў свеце і за паказанне, што „Беларусь то не справа для mięczaków”!

Міхал Каліна: — Прыналежнасць да якой-небудзь меншасці патрабуе пэўнай псіхічнай і інтэлектуальнай падрыхтоўкі. Каб не загінуць у моры тых, на каго ты не падобны. Дзякуючы заняткам па беларускай мове ў школе я, а і пэўна большасць вучняў, атрымалі магчымасць вырашыць: хто мы і што з гэтым далей рабіць. І мне тут нават не ідзе пра гісторыю, веды і факты, толькі пра больш агульныя ўрокі абароны сваіх рацый і падтрымлівання сваіх аргументаў.

**рэд. Мікола ВАЎРАНЮК**

# Stulecie szkolnictwa z językiem białoruskim w Białymstoku — lata 1917-2017 (na tle regionu białostockiego)



Славамір ІВАНЮК

Przed I wojną światową władze carskie nie pozwalały na otwieranie szkół białoruskich na terytorium Rosji. Białorusinów w tym imperium nie uznawano bowiem za odrębny naród, a jedynie za „plemię rosyjskiej narodnosti".

Zmiana podejścia do edukacji młodych Białorusinów w regionie białostockim nastąpiła dopiero w 1916 r., kiedy to niemieckie władze okupacyjne wydały zezwolenie na organizację szkół z językiem ojczystym dla zamieszkujących to terytorium Białorusinów, Litwinów, Polaków i Żydów.

Wspólnota białoruska w tym czasie znajdowała się w najmniej sprzyjającej sytuacji, ponieważ zdecydowana większość mieszkańców wschodniej Białostocczyzny w sierpniu 1915 r., pod wpływem rosyjskiej propagandy, udała się w tzw. bieżeństwo. Białoruscy „bieżeńcy" zaczęli powracać na własne gospodarstwa dopiero po kilkuletniej tułaczce. Dlatego w latach 1916-1918 szkoły białoruskie utworzono jedynie w nielicznych miejscowościach Białostocczyzny, z których mieszkańcy w 1915 r. nie ewakuowali się na wschód. Historycy odszukali wzmianki o kilkunastu szkołach białoruskich z tego okresu, w tym o działającej w Białymstoku. Dzięki historykowi Jerzemu Turonkowi zachowały się fotografie nauczycielki szkoły białoruskiej w Białymstoku — Wolhi Skowrońskiej. O tej postaci, poza imieniem i nazwiskiem, nie mamy prawie żadnych innych informacji, wiemy jedynie, iż w końcu 1917 r. uczestniczyła ona w kursach nauczycieli białoruskich w Świsłoczy.

Sprzyjająca dla szkolnictwa białoruskiego atmosfera — stworzona w warunkach okupacji niemieckiej — trwała jednak bardzo krótko. Już na początku 1919 r., po zajęciu Białostocczyzny przez wojska polskie, nowa władza szybko zlikwidowała szkoły białoruskie. Ta niekorzystna dla wspólnoty białoruskiej sytuacja utrzymywała się do jesieni 1939 r.

Zakaz tworzenia szkół białoruskich na Białostocczyźnie w okresie między dwiema wojnami światowymi, a także polonizacyjna polityka władz doprowadziły do takiego stanu, iż Białorusini w końcu lat 30. XX wieku stali się społecznością bardzo słabo wyedukowaną, w zasadzie pozbawioną warstwy inteligenckiej, która mogłaby organizować szerokie rzesze ludności pod białoruskimi hasłami narodowymi.

Zmiany w organizacji systemu oświaty nastąpiły dopiero w końcu 1939 r., kiedy to Białostocczyznę włączono do Białoruskiej Socjalistycznej Republiki Radzieckiej. We wsiach zorganizowano wówczas sieć szkół białoruskich. Niestety, w miastach, w tym w Białymstoku, stworzono głównie szkoły z wykładowym językiem rosyjskim, w których język białoruski był nauczany tylko na zasadach przedmiotu — jako jeden z języków urzędowych Białorusi radzieckiej. W Białymstoku zorganizowano wtedy Instytut Pedagogiczny, którego zadaniem było przygotowanie kadry nauczycielskiej, jednakże Białorusini — niestety — wśród słuchaczy tej uczelni stanowili mniejszość. Działający niecałe dwa lata model szkolnictwa radzieckiego miał przede wszystkim

na celu uformowanie tzw. człowieka radzieckiego, ale na poziomie elementarnym dawał młodym Białorusinom podstawy wiedzy o ojczystym języku literackim i własnej kulturze.

W okresie okupacji niemieckiej w latach 1941-1944 na Białostocczyźnie działało legalnie kilkadziesiąt elementarnych szkół białoruskich, gdyż nowe władze pozwoliły Białorusinom tworzyć prywatne placówki utrzymywane przez rodziców. Jednakże w Białymstoku białoruską szkołę utworzono dopiero w 1943 r. — po uzyskaniu zgody od okupacyjnych władz niemieckich. Swoją siedzibę placówka ta miała w budynku dawnej fabryki przy ul. Kijowskiej 1.

Z chwilą likwidacji na Białostocczyźnie okupacji niemieckiej w lipcu 1944 r. zaczęło się odradzać życie społeczne i w wielu miejscowościach, które zamieszkiwali Białorusini, zaczęto spontanicznie tworzyć szkoły białoruskie. Według Jerzego Turonka, we wrześniu 1944 r. na terenach będących pod władzą Polskiego Komitetu Wyzwolenia Narodowego, działały 93 szkoły podstawowe z językiem białoruskim. Ponadto w ramach szkolnictwa ponadpodstawowego utworzono 3 gimnazja z językiem białoruskim: w Białymstoku (było gimnazjum rosyjsko-białoruskie), Bielsku Podlaskim i Hajnówce. Tylko w Bielsku Podlaskim białoruska młodzież mogła kontynuować edukację na poziomie licealnym i w 1946 r. odbył się tam pierwszy, a zarazem ostatni egzamin maturalny.

Niestety, już w połowie 1945 r. tzw. władza ludowa zaczęła likwidować w szkołach nauczanie języka białoruskiego. Szybko też zamknięto białoruską podstawówkę i Rosyjsko-Białoruskie Gimnazjum w Białymstoku — argumentując to tym, że w związku z wyjazdami Białorusinów na wschód nie ma potrzeby utrzymywania takich placówek w Polsce.

Nowy etap w historii edukacji białoruskiej na Białostocczyźnie otworzyła podjęta w końcu czerwca 1949 r. decyzja centralnego kierownictwa Polskiej Zjednoczonej Partii Robotniczej, która dotyczyła odtworzenia szkolnictwa białoruskiego. Już we wrześniu 1949 r. rozpoczęły pracę 24 szkoły podstawowe z białoruskim językiem



Uczniowie szkoły w Grabowcu z nauczycielką Wierą Matejczuk

wykładowym: 21 w ówczesnym powiecie bielskim, dwie w powiecie białostockim i jedna w powiecie sokólskim. Uczyło się w tych placówkach wówczas ponad 2 tysiące uczniów.

Władze nie pozwoliły jednak na utworzenie białoruskiej szkoły w Białymstoku. W stolicy województwa dokonano jedynie naboru uczniów do jednej klasy pierwszej z językiem białoruskim w Liceum Pedagogicznym Towarzystwa Przyjaciół Dzieci w Białymstoku. W następnym roku uczniów tych przeniesiono do nowo otwartego Liceum Pedagogicznego w Bielsku Podlaskim, w którym utworzono ciąg klas z językiem białoruskim.

Wyraźnym zamiarem władz w tym czasie było tworzenie szkół białoruskich w środowiskach wiejskich, co wpisywało się w politykę rolną państwa, w której jako główne zadanie wskazano uspółdzielczenie rolnictwa. Miała to być zachęta dla ludności białoruskiej do opowiedzenia się za nowymi władzami, co — należy to przyznać — po części rządzącym po wojnie w Polsce się udało.

Kolejnym białoruskim epizodem w stolicy województwa białostockiego było nauczanie języka białoruskiego w Państwowym Liceum dla Wychowawczyń Przedszkoli w Białymstoku. Otóż po likwidacji w czerwcu 1957 r. Liceum dla Wychowawczyń Przedszkoli z Białoruskim Językiem Nauczania w Bielsku Podlaskim część uczennic tej szkoły przeszła właśnie do placówki białostockiej, w której umożliwiono im kontynuowanie nauki białoruskiego języka ojczystego do końca roku szkolnego 1959/1960.

Jeszcze jednym białoruskim epizodem w Białymstoku były trzyletnie studia na kierunku filologia białoruska, które zorganizowano w Zaocznym Studium Nauczycielskim. Kierunek ten w latach 1956-1965 ukończyło 91 nauczycieli języka białoruskiego głównie ze szkół wiejskich.

Niezorganizowanie w Białymstoku, stolicy województwa, będącej centrum oddziaływania na inne tereny regionu, nauczania języka białoruskiego choćby w jednej szkole podstawowej, czy też choćby w jednym liceum miało negatywny wpływ na obecność języka białoruskiego przede wszystkim w szkolnictwie powiatu białostockiego i sokólskiego. Na tym terytorium najszybciej zaprzestano prowadzenia w szkołach innych przedmiotów w języku białoruskim, a w powiecie sokólskim już w latach 70. XX wieku w ogóle zaprzestano nauczania języka białoruskiego, który na wsi nadal funkcjonował jako tzw. mowa prosta — nie mogąc w żaden sposób konkurować z polskim językiem państwowym.

W roku szkolnym 1980/1981 język białoruski na Białostocczyźnie był nauczany już tylko w 41 szkołach podstawowych i uczyło się go niecałe trzy i pół tysiąca dzieci. A jeszcze dziesięć lat wstecz języka białoruskiego na Białostocczyźnie uczyło się ponad 10 tysięcy dzieci w blisko 150 podstawówkach. W latach 70. XX wieku nastąpił, jak widać, wielki kryzys szkolnictwa z językiem białoruskim, co przełożyło się wyraźnie na ogólną kondycję wspólnoty białoruskiej w Polsce.

Marazm lat 70. ubiegłego stulecia przerwała rewolucja „Solidarności", która wybuchła latem 1980 r. Dała ona impuls działaczom Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego do wysunięcia pod adresem władz postulatów w celu poprawy sytuacji nauczania języka białoruskiego. Jeden z tych postulatów dotyczył wprowadzenia języka białoruskiego do jednej ze szkół podstawowych w Białymstoku. Inicjatywa ta nie przyniosła jednak żadnego efektu, gdyż działacze BTSK nie znaleźli rodziców chętnych do posłania dzieci na lekcje języka białoruskiego.

I dopiero zmiana systemu politycznego w Polsce po 1989 r. otworzyła na Białostocczyźnie nowy okres nauczania języka białoruskiego w polskich szkołach w duchu

odrodzenia. W Białymstoku podjęto najpierw jedynie nieśmiałe próby zorganizowania nauczania języka białoruskiego. Na początku lat 90. XX wieku działała zupełnie nieformalnie tzw. szkółka niedzielna, która mieściła się w mieszkaniu Państwa Stachwiuków w bloku przy ul. Legionowej. Inną inicjatywą było zorganizowanie przez grupkę uczniów ze Związku Młodzieży Białoruskiej w jednym z białostockich liceów zajęć z języka białoruskiego — co trwało jednak tylko pół roku.

Całkowicie nowy etap edukacji młodych Białorusinów w Białymstoku zapoczątkowany został dopiero w połowie lat 90. minionego stulecia. Dzięki determinacji początkowo garstki rodziców z Barbarą Piekarską i Jerzym Kaliną na czele, którzy pod koniec lat 80. XX wieku współtworzyli Białoruskie Zrzeszenie Studentów, 1 września 1995 r. w Przedszkolu Samorządowym nr 14 w Białymstoku rozpoczęto nauczanie języka białoruskiego. Dwa lata później, czyli dwadzieścia lat temu, już siedmioro dzieci kontynuowało naukę ojczystego języka białoruskiego w Szkole Podstawowej nr 4 w Białymstoku.

Od tego czasu obserwowany jest sukcesywny rozwój nauczania języka białoruskiego w placówkach oświatowych stolicy utworzonego w 1999 r. województwa podlaskiego. Odzwierciedlają to dane statystyczne ujęte w poniższej tabeli, w której wyszczególniono także nauczanie języka białoruskiego w innych placówkach oświatowych, działających w Białymstoku: Gimnazjum nr 7, III Liceum Ogólnokształcącym, Niepublicznej Szkole Podstawowej św. św. Cyryla i Metodego, Niepublicznym Gimnazjum św. św. Cyryla i Metodego.

Tabela. Liczba dzieci i młodzieży uczącej się języka białoruskiego w Białymstoku w latach 1995/96—2015/16.*
W nawiasach podano ogólną liczbę dzieci w przedszkolu i szkołach.

| **Rok szkolny** | **Przedszkole nr 14** | **Szkoła Podstawowa nr 4** | **Niepubliczna Szkoła Podstawowa św. św. Cyryla i Metodego** | **Gimnazjum nr 7** | **Niepubliczne Gimnazjum św. św. Cyryla i Metodego** | **III Liceum Ogólnokształcące** | **Ogółem** |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1995/96 | 40 (116) | - | - | - | - | - | 40 |
| 1996/97 | 39 (117) | - | - | - | - | - | 39 |
| 1997/98 | 42 (117) | 6 | - | - | - | - | 49 |
| 1998/99 | 42 (119) | 9 (442) | - | - | - | - | 51 |
| 1999/2000 | 40 (116) | 22 (443) | - | - | - | - | 62 |

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 2000/01 | 38 (113) | 32 (435) | - | - | - | - | 70 |
| 2001/02 | 40 (117) | 41 (486) | - | - | - | - | 81 |
| 2002/03 | 40 (104) | 46 (489) | - | - | - | - | 86 |
| 2003/04 | 49 (104) | 46 (472) | - | 11 (564) | - | - | 106 |
| 2004/05 | 59 (110) | 54 (447) | - | 18 (500) | - | - | 131 |
| 2005/06 | 53 (107) | 59 (444) | - | 24 (477) | - | - | 136 |
| 2006/07 | 59 (135) | 66 (441) | - | 20 (468) | - | 7 (881) | 152 |
| 2007/08 | 54 (152) | 65 (409) | 8 (8) | 21 (457) | - | 11 (850) | 159 |
| 2008/09 | 87 (148) | 66 (403) | 14 (14) | 21 (462) | - | 10 (907) | 198 |
| 2009/10 | 77 (180) | 70 (416) | 28 (29) | 21 (427) | - | 9 (891) | 205 |
| 2010/11 | 79 (173) | 71 (453) | 45 (45) | 24 (451) | - | 7+1** (871) | 227 |
| 2011/12 | 97 (191) | 68 (459) | 48 (58) | 21 (437) | - | 10+3** (874) | 247 |
| 2012/13 | 99 (195) | 71 (460) | 68 (80) | 20 (432) | - | 10+3** (887) | 271 |
| 2013/14*** | - | - | - | - | - | - | - |
| 2014/15 | 93 (brak) | 84 (brak) | 80 (brak) | 11 (brak) | 22 (brak) | 4 (brak) | 294 |
| 2015/16 | 92 (brak) | 103 (brak) | 67 (brak) | 11 (brak) | 26 (brak) | 7 (brak) | 306 |

* Źródło: Kuratorium Oświaty w Białymstoku.
** Młodzież z innych szkół.
***Brak danych.

Tak wyjątkowe osiągnięcie możliwe było dzięki bardzo dużemu zaangażowaniu rodziców. To rodzice po włączeniu się w pracę Rady Rodziców spowodowali, że przedszkole przyjęło nazwę „Przedszkole Samorządowe nr 14 z Polskim i Białoruskim Językiem Nauczania", a w statucie tej placówki wprowadzono zapisy gwarantujące działalność dwóch oddziałów białoruskich.

Podobnie w Szkole Podstawowej nr 4 od samego początku rodzice aktywnie wspierali nauczycielkę języka białoruskiego Alinę Wawrzeniuk. Na szczególną uwagę zasługuje wspólne zaangażowanie w zajęcia pozalekcyjne: koło teatralne w języku białoruskim „Zabawa w teatr", zespoły śpiewacze „Bałamuty" (dzieci starsze i młodzież gimnazjalna), „Bałamutki" (dzieci młodsze), a w okresie letnim tygodniowe warsztaty etnograficzne „Tutaj się urodziłem" (organizowane od 2004 r.) oraz zespół taneczny „Podlaski Wianek", który utworzony został przed dwoma laty. Dodatkowo podkreślić należy aktywność nauczycielki Aliny Wawrzeniuk, która jest autorką dwóch podręczników do nauczania języka białoruskiego w szkole podstawowej.

Większość przedsięwzięć realizowanych dla dzieci uczących się języka białoruskiego w szkołach Białegostoku organizuje Stowarzyszenie na rzecz Dzieci i Młodzieży Uczących się Języka Białoruskiego AB-BA — powołane w 2006 r., które swoją siedzibę ma w pomieszczeniach Szkoły Podstawowej nr 4.

Z inicjatywy Stowarzyszenia na rzecz Dzieci i Młodzieży Uczących się Języka Białoruskiego AB-BA w 2012 r. rozpoczęto prace nad stworzeniem „Strategii rozwoju oświaty mniejszości białoruskiej w Polsce". Celem tego dokumentu miało być przeanalizowanie sytuacji szkolnictwa dla Białorusinów w Polsce, zdiagnozowanie występujących problemów oraz wypracowanie zaleceń służących ich rozwiązaniu, bądź przeciwdziałaniu. W maju 2014 r. opracowaną „Strategię rozwoju oświaty mniejszości białoruskiej w Polsce" zaakceptowali Minister Edukacji Narodowej i Minister Administracji i Cyfryzacji.

W roku szkolnym 2015/2016 w województwie podlaskim języka białoruskiego w 46 placówkach oświatowych uczyło się ogółem 3140 młodych Białorusinów, z tego więcej niż 10% to dzieci i uczniowie przedszkola i pięciu szkół zlokalizowanych w Białymstoku.



Фота Ганны Кандрацюк

Эва Сегень
Наталька Швед
Міхась Каліна

# Шаноўная Спадарыня
# Двайны мгр Аліна Ваўранюк
# Настаўніца беларускай мовы
# Супернастаўніца
# Уласніца Ордэна Мяккага Знака

Мінула дваццаць гадоў, калі мы 1 верасня 1997 года ў панядзелак прыйшлі ў Пачатковую школу нумар 4 у Беластоку. Прынялі Вы нас як родная Матуля ці каханая Цёця і так было праз 9 гадоў нашай навукі.

Вывучалі мы згодна з праграмай літары і словы роднай мовы, вучыліся складаць сказы, пазнаваць гісторыю і літаратуру. Гулялі ў тэатр, прымалі ўдзел у дэкламатарскіх конкурсах, пабывалі на летніках, ездзілі ў Беларусь.

З усяго прысвоенага на сённяшняе святкаванне Дваццацігоддзя навучання беларускай мове ў Беластоку выбралі мы адно слова, якое заўсёды прысутнічала падчас нашай навукі. Справа будзе пра іголку, маленькую прыладу працы з вострым канцом з аднаго боку і дзіравым вушкам з другога.

Што праўда, Вы нас вучылі і пра іншыя іголкі. Добра памятаем загадку: „Не кравец, а з іголкамі ходзіць", але вось загадка пра сталёвага коніка, у якога льняны хвосцік, для нас была не пад сілу. На шчасце Вы паказалі нам гэтага коніка і мы былі захоплены як танцуе іголка з ніткаю ў Вашых таленавітых руках. На Вашым прыкладзе мы зразумелі, што ў беларускай культуры іголка гэта вялікая канкурэнцыя для пэндзля.

Былі Вы Супернастаўніцай. Вы ніколі не загадвалі шукаць нам іголкі ў стозе сена, ці праводзіць слана праз іголачнае вушка. З Вамі было заўсёды відна, хоць іголкі збірай. Вы нам так проста выяснілі, што з настойлівасцю іголкай можна выкапаць студню. Гэтым правілам мы карыстаемся ў цяжкіх хвілінах нашага жыцця.

Вы нас вучылі простаму прынцыпу, што калі пяройдзе іголка, пяройдзе і нітка. Мы таксама ад Вас даведаліся, што не кожную нітачку можна ўцягнуць у тую самую іголачку.

Спадарыня Аліна! Калі зараз нам пад трыццаць і некаторыя з нас ужо знайшлі сваю другую палавінку, а апошнія магчыма што неўзабаве знойдуць, дык усе мы добра памятаем, што замест рымскага „дзе ты Гай, там і я Гая", ёсць і нашае беларускае „куды іголачка, туды і нітачка". Праўда, якое прыгожае!

А сёння, мы Вам гаворым, звёў нас лёс з Вамі, быццам нітку з іголкай.

Спадарыня Аліна! Дзякуем Вам: і за іголачку, і за нітачку, і за многа, многа ўсякага духоўнага дабра.

Музей тэкстылю ў Лодзі арганізуе ад многіх гадоў конкурс вышыўкі крыжыкам. Там галоўная ўзнагарода гэта залатая іголка. Мы Вам на памятку юбілейнай сустрэчы дорым сімвалічную залатую іголку з бел-чырвона-белай ніткаю, каб Вы ведалі, што мы пра Вас не забываем, а ўсё, чаму Вы нас навучылі, жыве ў нас.

Калі ёсць А павінна быць і Б. Без А і Б няма АБ-БЫ. Таму такую ж самую іголку атрымлівае Спадарыня Бася Пякарская, шматгадовая Старшыня Аб'яднання ў карысць дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову. Найбольш ахвярная з бацькоў, якая нас прытуляла да сэрца ў цяжкія хвіліны і ўсім сэрцам і напружанай працай падтрымлівала навучанне беларускай мове.

Мы цешымся, што нашым следам ідзе штораз больш і больш нашых малодшых сяброў. Ужо мы вялікая сям'я. Жадаем Вам наступных плённых гадоў!

**Многая лета з нагоды юбілею!**

**Наталька ШВЕД**

Беласток, 17 верасня 2017 года

# Фармаваць свет па-свойму



Мікола ВАЎРАНЮК



**Барбара Пякарская** — сямейны лекар. У мінулым старшыня Беларускага аб'яднання студэнтаў, суарганізатарка першых Фестываляў музыкі Маладой Беларусі „Басовішча". Ініцыятарка навучання беларускай мове ў дзіцячым садку і школах Беластока. Старшыня Аб'яднання ў карысць дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову АБ-БА (2006-2014 гг.).

**— Басю, памятаеш свой першы рэйд[1]?**

— Так, пачынаўся ён у Драгічыне, з якога мы ішлі ў Сямятычы і Мельнік. Каторы быў гэта год?

**— 1988 — „Бацькаўшчына". Дзіўная справа, чаму я цябе з гэтай вандроўкі не памятаю?**

— Бо я пасля двух дзён выехала. Раней дамовілася з Таняй і Васілём Ляшчынскімі, што паеду з імі на вандроўны лагер, як апякунка — *ха-ха* — хаця я была мала старэйшай за іхніх вучняў. І я цябе з гэтага рэйду не памятаю. Запомніліся мне Генік Вапа, Валік Сельвясюк, Жоржык (Юрка) Грыгарук, Марылька Базылюк.

**— Я да гэтага рэйду далучыўся ў Мельніку. Раней ці то нейкія экзамены меў, ці штосьці іншае мяне затрымала. Разумею, што мы тады размінуліся. Спытаў цябе пра гэта, бо**

1 Так беларускія студэнты ў Польшчы ў 1980-90 гг. называлі краязнаўча-адукацыйныя вандроўкі па Беласточчыне. Ад польскага слова *rajd*, якое, між іншым, абазначае некалькіэтапную вандроўку.

**стараюся прыпомніць, калі мы пазнаёміліся. Мне здаецца, што першы раз я цябе ўбачыў на... здымках. Якраз з нейкага восеньскага студэнцкага рэйду. Памятаю дзяўчыну з фотаапаратам у руках і шопай рудых валасоў. І яшчэ памятаю, што пасля таго рэйду Юрка Ляшчынскі мне расказваў, што далучылася да нас файная дзяўчына з медыцыны.**

— Гэта быў той самы год. Кажаш 1988? Вандроўку арганізавалі Юрка Каліна і Олек Карпюк. Ішлі мы, здаецца, з Супраслі ў Копную Гару.

— **Ну так, я тады не мог быць з вамі, бо на паўгода эміграваў у Рым. А як ты трапіла на нашы рэйды?**



Бацькі Ніна (з дому Іванюк) і Мікалай Кучынскія.

— Не памятаю. Можа Марылька Базылюк мяне ўцягнула.

— **Ты ўжо тады была знаёмая з Марылькай?**

— Яна мела ў нашым ліцэі студэнцкую практыку. Нашы мамы з Пасынак, адтуль і вельмі блізка сябравалі. Мая мама хрысціла Марыльчынага брата, Сцёпку. Але не скажу, каб я ў той час добра яе ведала. Усё ж такі, была розніца ва ўзросце і нашы шляхі тады рэдка перакрыжоўваліся. Дык можа не Марылька, а мая сяброўка з ліцэя Гандзя Матысюк мяне на тыя вандроўкі намовіла? Яна ўжо некалькі гадоў хадзіла са студэнтамі. Яе, у сваю чаргу, уцягнула старэйшая сястра Эва. А можа іншы мой сябра з ліцэя, Юрка Каліна, супольна з Олькам Карпюком, з якім яны разам жылі ў студэнцкім інтэрнаце?

— **І што, рэйды моцна ўцягнулі?**

— Яшчэ як! Я была пад вялікім уражаннем ад „Бацькаўшчыны". Тыя размовы, інтэлектуальная атмасфера, да таго спевы — я знайшла сваё. Як мне не хацелася адтуль з'язджаць, але раней ужо паабяцала і не было выйсця. На студыях я, відаць, моцна адчувала, што мне патрэбнае наша асяроддзе. Раней у Бельску чалавек пра такое не думаў.

— **Ты адна з нешматлікіх вядомых мне бяльшчанак, якая не вучылася ў *Тройцы*.**

— Я вучылася ў *Чацвёрцы*. Гэта была школа ў маім раёне. Таму мяне бацькі туды запісалі і ўсё. У іх проста не было часу цікавіцца, якая школа што прапануе дзецям. Яны цяжка працавалі, не толькі на дзяржаўных пасадах, але яшчэ і на гаспадарцы — у нас было поле, сеялі збожжа, лён, я яшчэ памятаю карову. Потым доўга, пакуль мелі сілы, займаліся агародам. Колькі помню: праца, праца, праца, ад світанку да ночы. Але беларускі ліцэй я ўжо выбрала сама.



Бася з братам Андрэем.

**— Таму што беларускі, ці таму што ён славіўся высокім узроўнем навучання? Ці ты ўжо тады думала пра медыцыну?**

— Думала. Таму пэўна важнейшым фактарам быў высокі рэйтынг школы, чымсьці нейкая там беларускасць. Хаця тое, што пра школу гаварылі „наша", таксама нешта значыла. Я выхоўвалася ў двухмоўным асяроддзі. Гаварыла, як і ўсе дзеці ў Бельску, на польскай мове, але бацькі дома і з раднёй гаварылі *па-свойму*. Таму беларускі ліцэй быў бліжэйшы сэрцу за польскі. Быў наш, свой, але за нацыянальную справу мы ў ім асабліва не перажывалі. Нечага *свайго* мне стала бракаваць у Беластоку.

**— Тым не менш, ты не адразу кінулася ў вір беларускага студэнцкага жыцця.**

— Я папала ў іншы вір — навукі. Першыя два гады медыцыны, павер мне, не пакідалі многа часу ні на забаву, ні на тугу, ні на роздумы пра сваю тоеснасць. Да навукі даходзілі практыкі... Але на атрасіны[2] час знаходзіла.

То не было так, што я ніякай беларускай свядомасці не мела. Парасткі былі. Апрача таго, што дома бачыла і чула, што мы не палякі, вялікую ролю ў засеянні тых парасткаў меў Васіль Ляшчынскі.

**— Дырэктар *Тройкі*, у якой ты не вучылася.**

— Я любіла спорт. Урокі фізкультуры мела ў нас Таня Ляшчынская, а Васіль прыходзіў на дадатковыя заняткі — СКС (Школьны спартовы клуб). Яны абое тады былі маладымі настаўнікамі, са спартовымі поспехамі з вучнямі ў вясковай школе ў Моры. Любілі тое, што робяць. Я нават не памятаю, ці Васіль фармальна вёў той наш кружок, ці толькі памагаў жонцы. Затое добра памятаю размовы з ім у перапынках. А то нам кніжку падкіне якую, а то фільм паглядзець заахвоціць, а то пра нешта такое скажа, пра што мы раней не чулі, напрыклад, што Касцюшка ці Міцкевіч не да канца былі такімі

[2] Лёгкая, забаўная форма залічэння першакурснікаў у студэнты. Ад польскага: *otrzęsiny*.

палякамі, як мы думаем, ці як нас вучаць у школе. Ад яго як першага я пачула, што наша паходжанне можа быць прычынай гонару. Пры чым ён не вёў ніякай індактрынацыі, не гаварыў проста ў лоб, а даваў прыклады, расказваў, неяк гэта само па сабе станавілася ясным. Цікава, што калі я яму шмат гадоў пазней пра гэта сказала, ён моцна здзівіўся: *Co ty p...sz!?* А ўва мне яго навукі моцна ўкараніліся. Відаць я ў той час патрабавала інтэлектуальнага аўтарытэту і стаў ім Васіль Ляшчынскі. У школе ўсё было чорна-белае, а ён увёў у апісанне свету колеры.

— **Калі ты пачала гаварыць па-беларуску?**

— На студыях. А дакладна ў той час, калі пачала хадзіць на рэйды, калі быў разгар нашай студэнцкай актыўнасці. Рэгістрацыя Беларускага аб'яднання студэнтаў, 25 Сакавіка ў маім інтэрнаце, у якім прыняло ўдзел з паўтары сотні асоб, святкаванне 70-годдзя крывавага разгону Грамады ў Старым Беразове, першыя свабодныя выбары ў Польшчы. І той вечар у Бельску, у Андраюкоў, на якім з'явілася ідэя „Басовішча"!

— **Як на гэта адрэагавалі бацькі?**

— Мама хутчэй прыняла гэта як норму. Тата доўга не мог прызвычаіцца. Нават потым, калі ў нас з'явіліся дзеці, то цяжка яму было пераключыцца, каб не гаварыць да іх па-польску.

— **Усе ж навокал гаварылі да дзяцей па-польску.**

— Так. Я яго разумею. Наша мова была сінонімам горшага жыцця. Пра гэта нават Матэвуш Марчэўскі піша ў кніжцы *Koliste jeziora Białorusi*, а дакладней кажучы, цытуе Валянціна Акудовіча. І не забывайма, што за нашай мовай цягнуўся таксама страх.

— **Твайму бацьку было восем гадоў, калі перажыў пацыфікацыю Шпакоў. Бачыў смерць суседзяў. Спалілі яго дом. Ці пра гэта гаварылі ў вас у сям'і?**

— Ці гаварылі? Божа! Мы выраслі на гэтых гісторыях. Ведаю, што не ва ўсіх сем'ях аб гэтым гаварылася. Напрыклад, пісьменніца Катажына Бонда расказвала, што толькі з архіваў даведалася пра смерць бабкі з рук „Бурага", бо дома гэта была тэма табу. У нас гэтая тэма табу не была.

— **Можа таму, што ў вас гэтая тэма была перагавораная, перамолатая, перапрацаваная, у цябе няма ніякай нянавісці.**

— Не толькі тое. Я ж не жыла ў нейкім гета, а ўвесь час вакол мяне былі як беларусы, так і палякі. Мы ж па-суседску гулялі, разам вучыліся, сябравалі, цяпер працуем. Таму я добра разумею, што кожны чалавек — асобны космас. І не прыпісваю яму нейкіх абстрактных нацыянальных рыс, у якія я зрэшты не веру.

— **А як было з бацькам?**

— Я б не сказала, што ў ім жыла нянавісць. Страх — так. Баяўся ўсё жыццё. Як я толькі штосьці пачынала рабіць на беларускай ніве, асцерагаў мяне: *пабачыш, пабачыш, мы таксама нічога дрэннага нікому не зрабілі*. Пры чым, хаця мы былі кормлены тымі расказамі з дзяцінства, то

Нью-ёркскі гурток БАСу, злева: Алег Латышонак, Барбара Кучынская, Міраслаў Пякарскі, Анна Матысюк, Валянцін Сельвясюк, Яланта Панфілюк.



яны не выходзілі за парог хаты. І я нават неяк баялася, каб гэтая гісторыя не прапала, не адышла разам з татам.

**— Але ж ён яе расказаў. Гэта бадай найбольш кранальны момант з кніжкі „Ой даўно, даўно...", і аднайменнага спектакля. Калі Лідка перадавала словы дзеда, думаю, мала хто мог стрымаць слёзы.**

— Да таго, каб публічна выказаць свой боль, мой тата ішоў доўга. Пра той час сталі ўжо гаварыць публічна. Ён бачыў, што нічога дрэннага ў выніку гэтага не адбывалася. І сам рашыўся расказаць сваю гісторыю Валі Лаеўскай з Радыё Рацыя. Пад канец жыцця да таго набраўся смеласці, што калі сустрэўся на рынку ў Бельску з жыхарам суседняй, польскай вёскі, спытаў яго: *Przyznaj się, Kazik, ilu naszych zabiłeś?*

**— Калі вашы дзеці ўпершыню пра гэта пачулі?**

— Яны ведалі змалку. Не скажу, каб якраз гэтая гісторыя дамінавала ў іх дзяцінстве, але ніхто яе ад іх не хаваў. Потым Лідка лепш за Ганку яе пазнала, больш падрабязна, пры нагодзе працы над „Падляшскімі хронікамі". Тым не менш, абедзве ведалі, што прыйшлося перажыць іх дзеду. І яны, відаць, моцна гэта запамяталі, бо нават, бывала, дзіваваліся, калі тата расказваў вясёлыя гісторыі з маладосці: пра святы, танцы, дзяўчат.

**— Давай тады пра весялейшае. Як пазнаёміліся твае бацькі?**

— Хтосьці тату сказаў, што ў Пасынках прыгожая дзяўчына працуе ў краме. І ён на Пакрову спецыяльна з Бельска паехаў у Пасынкі па гарэлку (як быццам у Бельску не было, *ха-ха*). Далейшыя падзеі адбыліся маланкава, бо няцэлы месяц пазней, 11 лістапада, яны пажаніліся.

**— І сталі жыць у Бельску?**

— Так. Тата пабудаваў хату ў 1958-59 гадах, калі яму было 21-22 гады. Жыў у ёй толькі з мамаю, бо ўжо ў тым трагічным 1946 годзе быў сіратою. Прадалі тое, што мелі ў Шпаках і купілі зямлю ў Бельску. Хлявы, якія ўцалелі ад пажару ў 1946 г. разабралі і перавезлі ў Бельск. А потым, калі мы былі малыя, бацькі пабудавалі яшчэ адзін дом — мураваны, двухпавярховы.

**— Уяўляю сабе, колькі каштавала бацьку пабудаваць за жыццё два дамы. У Шпаках штосьці засталося?**

— Нічога. Тата мне паказваў, дзе стаяла тая хата — новая, якую спаліў атрад „Бурага". Цяпер там пусты пляц. Нават не ведаю, чый ён зараз. Сляды сям'і засталіся адно на прыхадскіх могілках у Малешах, дзе пакояцца бацька і дзед майго таты.

**— Сям'я мамы не была супраць таго, каб выдаць дачку за сірату? Яны ж былі гаспадары, без такой трагічнай гісторыі за спінаю.**

— Але ці былі багацейшыя? Не думаю. Да таго ў мамы было двух братоў, усіх трэба было надзяліць. Так што тут ніякага мезальянсу не было.

**— Давай пяройдзем да бліжэйшага нам часу, да нашай маладосці.**

— Да рэйдаў, атрасін, Купалляў,

Барбара Пякарская
і Аляксандр Максімюк –
арганізатары «Басовішча»
ў 1992 годзе.
Фота з архіва А. Максімюка.



супольнага святкавання Прачысты ў Бельску, часу Беларускага аб'яднання студэнтаў, першых палітычных выбараў і Беларускага выбарчага камітэта, першага „Басовішча"? Гэта быў разгар актыўнасці. Усё тады было такое светлае, цікавае. Час сяброўства, любові, пачуццяў, якія засталіся на ўсё жыццё.

**— І ў такі час вы нас з Міркам пакінулі! Зараз пасля „Басовішча" з'ехалі на год у Амерыку.**

— А вы нам за гэта аддзячылі: сталі жаніцца. Мы прапусцілі чатыры вяселлі: у Карпюкоў, у Марылькі, у Авэрчукаў і ў вас.

**— Пакінем гэты ўдар з нашага боку. Лепш раскажы, як вы пазнаёміліся з Міркам.**



Барбара і Міраслаў Пякарскія на парозе Свята-Прачысценскай царквы ў Бельску (май 1992 г.)

— Напэўна было гэта на адным са студэнцкіх мерапрыемстваў восенню 1989 года. Мне здаецца, што на Народным універсітэце, які мы арганізавалі ў сядзібе Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Мірэк сумняваецца, што там, але сам толкам таксама не памятае. І так прыгадваем ужо дваццаць пяць гадоў (*смех*) ад шлюбу.

**— А якім чынам вы паехалі ў ЗША?**

— Канадскае таварыства „Беларусь", старшынёй і цэлым рухавіком якога быў наш зямляк Алесь Палескі (ён нават фундаваў грашовыя ўзнагароды) аб'явіла конкурс „Што я ведаю пра Беларусь". Праводзілі яго супольна Беларускае аб'яднанне студэнтаў і Беларускае грамадска-культурнае таварыства. Дык так сталася, што я — прывыклая на медыцыне многа і канкрэтна вучыцца — вызубрыла тэму і перамагла больш начытаных калег-гуманітарыяў. Пасля таго атрымала запрашэнне на З'езд беларусаў Паўночнай Амерыкі ў Кліўленд. Сама можа і не паехала б, але паколькі мы былі ўжо з Міркам разам і паколькі ўдалося нам атрымаць амерыканскія візы (тады гэта не была такая лёгкая справа), вырашылі пакарыстацца нагодай і застацца ў ЗША даўжэй.

**— Давай лепш пра тое, што тая часовая эміграцыя табе дала?**

— Вельмі многа. Дала мне іншыя перспектывы, іншы погляд на жыццё. Нават прыкрыя моманты чамусьці вучылі. Памятаю, якім шокам было для мяне тое, калі я працавала як *baby-sitter* у жыдоўскай сям'і. Калі яны абедалі, я не магла сядзець з імі за адным сталом. Для мяне, дзяўчыны, якой было тады дваццаць з лішнім гадоў, стала вельмі крыўдна. Але дзякуючы гэтаму я зразумела, што ёсць не толькі розныя людзі, але і розныя культуры, што для тае хасідскай сям'і я была нячыстай, каб сядаць з імі за стол. Але як яны спявалі! Цэлай сям'ёй. Да сёння звіняць мне ў вушах іх песні. Куды больш было станоўчых уражанняў.

Думаю, што шмат чаго з таго, што я тады перажыла, мяне сфармавала. Найважнейшыя былі сустрэчы з беларускай эміграцыяй. Якія гэта былі людзі! Яны перажылі трагедыю, пакінулі родны дом, трапілі ў Амерыку ні з чым, а не толькі сумелі нажыць нейкае матэрыяльнае дабро, але перш-наперш захавалі любоў да Беларусі, ганарыліся сваёй беларускасцю. І гэтаму яны навучылі нас. А з некаторымі з іх, як з Алай Орса-Рамана, у нас сяброўства да сёння. Не кажучы ўжо пра тое, што Ала застаецца для мяне асобай, з якой проста хочацца браць прыклад. Яна адна з самых важных і дарагіх мне асоб.



Дачушкі Ганула і Ліда.

**— Не было ў вас ахвоты там застацца?**

— Ні на момант. Нават калі бачылі розніцу ва ўзроўні жыцця. Мы ж там былі гастарбайтарамі, а маглі за заробленыя грошы кудысьці паехаць, штосьці пабачыць, ну і крыху адкласці на будучыню. Было файна, цікава, весела, бо мы не адны адсюль былі ў той час у Амерыцы, але мы ведалі, што там адно часова. Больш нас хвалявалі справы Беласточчыны. Нават гурток БАСу заснавалі ў Нью-Ёрку.

**— Ты яшчэ не ведала, што пасля вяртання станеш старшынёй цэлага Беларускага аб'яднання студэнтаў.**

— Не, адкуль?

**— Вы выязджалі як студэнты?**

— Мірэк ужо не, бо абараніў дыплом дзень перад першым „Басовішчам". А я так — узяла гадавы дэканскі водпуск.

**— Вярнулася ў Медыцынскі ўніверсітэт у Беластоку і зараз стала старшынёй, а трымаючыся тагачаснай наменклатуры — прэзідэнтам БАСу.**

— *Ха-ха!* Так, мой папярэднік, Валодзя Пац зажадаў, каб яго называць прэзідэнтам.

Сям'я ў камплекце.



**— Ён меў аўтарытарныя замашкі — *ха-ха* — па прыкладзе Валэнсы. І нават меў тлумачэнне, калі хто звяраўся да яго з прэтэнзіямі: *народ мае такога прэзідэнта, на якога заслужыў*. Дык колькі ты тым прэзідэнтам была?**

— Крыху больш за год. Са снежня 1991 года да лютага 1993 года.

**— Пачынала тэрмін паўнамоцтваў як Кучынская, а заканчвала як Пякарская.**



Арганізатаркі першых і цяперашніх „Басовішчаў": Лідка, Бася, Ганка Пякарскія.
Фота Ю. Асенніка

— Змены былі куды больш глыбокія (*смех*). Я заканчвала сваё прэзідэнцтва цяжарнай. Праз чатыры месяцы нам нарадзілася Гануля.

**— І вы адразу падумалі, што трэба ёй стварыць садок, а потым школу, у якой будзе навучанне беларускай мове?**

— Адразу то можа не. Але пра такую патрэбу гаворка час ад часу ў асяроддзі ўзнікала. Файна было б, каб дзеткі мелі кантакт з беларускай мовай не толькі ў хаце, але і ў школе. Тым больш, што дзеці радзіліся не ў адных нас. За такі сімвалічны пачатак нашага садка трэба лічыць сустрэчу ў Карпюкоў у Валілах-Станцыі. Мы з Калінамі паехалі ў адведкі да Іркі і Олька, якім нарадзілася дачка Оля. І там, памятаю, вырашылі паспрабаваць стварыць у Беластоку дашкольныя групы, у якіх заняткі будуць весціся таксама па-беларуску. А потым засталося толькі ажыццявіць задуму. Пачалі з самага простага — пошукаў бацькоў гатовых аддаць у такі садок дзяцей. Тэлефоны знаёмым з БАСу, сваякам і вандроўка па суседзях у раёне.

**— Хадзілі ад блёка да блёка?**

— А як! Я з Мірай Калінай. Закончылі, калі ў адным з блёкаў параілі нам, каб мы пайшлі да Пякарскіх (*ха-ха*), бо то такія беларусы!

**— Круг замкнуўся. Далей ведаем, што было: беларускія групы ў Дзіцячым садку № 14 (1995 г.), клас з навучаннем беларускай мове ў Пачатковай школе № 4 (1997 г.)...**

— ...навучанне беларускай мове ў Гімназіі № 7 (2003 г.) і Агульнаадукацыйным ліцэі № 3 (з 2006 г.).

**Гаварыў Мікола ВАЎРАНЮК**

# Мне падабаецца быць настаўніцай беларускай мовы!



Ганна КАНДРАЦЮК



Інтэрв'ю з **Алінай Ваўранюк**, настаўніцай беларускай мовы, аўтаркай падручнікаў, аніматаркай культуры, намесніцай старшыні аб'яднання АББА.

**Ганна Кандрацюк:** — Ты, як адна з нямногіх нашых настаўніц, заўсёды размаўляеш з вучнямі па–беларуску. У школе, на горадзе, у час розных паездак. Чаму гэта такое важнае?

**Аліна Ваўранюк:** — Настаўніку беларускай мовы трэба працаваць больш сэрцам, чым галавою. Я цэлае жыццё падкрэсліваю, што быць настаўнікам мовы нацыянальнай меншасці гэта не тое самае, што настаўнікам усіх іншых разам узятых прадметаў. Думаю, няма нічога горшага, чым настаўнік, які гаворыць толькі на ўроку, або выказвае толькі некаторыя фразы па–беларуску, а калі крычыць, то крычыць ужо на польскай, бо так ён прывык. Усюды і заўсёды трэба размаўляць з вучнямі па–беларуску, гэта звычайная, натуральная справа.

**ГК:** — У школьныя гады Ты размаўляла па–беларуску?

**АВ:** — Не.

**ГК:** — Як адбылася Твая перамена?

**АВ:** — Я пайшла на працу ў бельскую „тройку" і шмат часу праводзіла з Марылькай Базылюк. Ну і стала мне сорамна, што ўсе мае сябры размаўляюць на беларускай мове, а я адна на польскай. Я здаўна ведала, што я не полька. Калі збіраліся мае бацькі і сям'я і яны пачыналі гасцяваць, то яны гаварылі па–свойму і спявалі беларускія песні. Потым, калі я перамагла сябе і стала да бацькоў гаварыць па–беларуску, то думаю, для іх гэта было вельмі дзіўнае. Мая бабуля да канца сваіх дзён звярталася да мяне па–беларуску, а да маёй сястры па–польску. Так што я свядома пачала карыстацца мовай у дарослым жыцці. І можа таму гэта так вельмі цаню. Іншая справа, мне вельмі падабаецца праца настаўніцы беларускай мовы.

**ГК:** — У бельскай „тройцы", як памятаю, Ты працавала настаўніцай пачатковага навучання.

**АВ:** — Працавала ў малодшых класах I–III, але што цікавае, я там карысталася мовай не толькі ў час урокаў беларускай мовы, старалася гаварыць па–беларуску на тэхніцы, пластыцы, фізкультуры. Прыязджалі тады да мяне на ўрокі Лёнік Тарасэвіч, Эля Бэзюк, якая пад гітару вучыла беларускіх песень. Магчыма, гэта была такая *nadgorliwość neofity*, але так было. У 1997 годзе, калі дзве гадавыя групы закончылі вучобу ў беларускім садку, бацькі вырашылі, што дзяцей трэба далей вучыць роднай мове. І яны якраз запрасілі мяне, каб вучыць іх дзяцей.


Зорка
старонка для дзяцей
Родная мова ў Беластоку

**ГК:** — Першыя гады Ты даязджала аўтобусам з Бельска ў Беласток. У Вас тады былі малыя дзеткі. Не баялася Ты такога выкліку?

**АВ:** — Як цяпер пра гэта думаю, то здзіўляюся, што нікому тады не прыйшло ў галаву, што я трачу свае грошы на даезды. З грашыма ў нас заўсёды былі праблемы. Але я не думала, што гэта нейкая страта. Я страшэнна зайздросціла маім беластоцкім сябрам таго, што іх дзеці ў беларускім садку. Калі ў рэшце рэшт мы вырашылі, што пераедзем жыць у Беласток, зразу паслалі сваіх дзяцей у садок. Мяне вельмі цешыла, што наша Нінка з трох гадоў будзе хадзіць у садок. Аляксандр хадзіў адзін год.
Так што спачатку я даязджала з Бельска ў Беласток, а потым наадварот. А яшчэ я тады працавала метадыстам пачатковага навучання. Гэта былі два страшэнна цяжкія гады, якраз уваходзіла рэформа адукацыі. На працягу тыдня я вяла тры–чатыры майстар–класы для настаўнікаў. Але было цікава, файна.
Ну, слухай, вучыць дачку Віктара Шведа, гэта было для мяне такое воў! Людзі ўжо пазабывалі, а гэта мы ў Беластоку вярнулі навучанне беларускай мове з першага класа.

**ГК:** — Памятаеш першыя ўрокі ў Беластоку?

**АВ:** — Ад пачатку я ведала, што гэта вялікая адказнасць. Я страшэнна перажывала, старалася, каб усё было добра. Тады на ўрокі прыходзілі таксама бацькі, многа спраў мы вырашалі разам...

**ГК:** — На пачатку было шэсць вучняў.

**АВ:** — Я ўсіх іх памятаю. Цяпер вельмі пераажываю, бо Майка Більмін нарадзіла сына і тыдзень таму я сустракалася з яе Тымкам. А як першы раз пабачыла яго здымкі, то адчувала так, быццам гэта быў мой унук. Магда Карчэўская мае дачку, яшчэ яе не бачыла, бо яна жыве ў Швецыі. Ну, гэта такія файныя эмоцыі. Разам з бацькамі мы зжыліся і пасябравалі. Яны ва ўсім давяралі мне, я ва ўсім давярала ім. Гэта засталося па сённяшні дзень, гэта відаць хоць бы на летніках, калі бацькі аддаюць на тыдзень малых дзяцей, і яны тыдзень, без мабільнікаў, разам са мной. Гэта давер і вялікая адказнасць. Але вяртаючыся ў гэты першы клас. Тады паўсталі такія ідэі, як Калядны вечар ці Развітанне з восенню. Я старалася рабіць як найбольш адкрытых урокаў, паказваць бацькам як працуем, што мы робім. Памятаю як хадзілі ў „Ніву" калядаваць з дзяцьмі. Ну, такога не забываецца. Хоць з таго часу ўжо прайшло дваццаць гадоў, здаецца быццам усё было ўчора.

**ГК:** — Дваццаць гадоў гэта такі перыяд, калі можам прыкмеціць вынікі дзейнасці. Што лічыш сваім найбольшым дасягненнем?

**АВ:** — Гэта адукацыйны пакет для класаў I–III. Гэта сцэнарый заняткаў для першага класа. Гэта падручнікі: *Лемантар* і *Кругагод*. Гэта настольныя гульні, я іх апрацавала, а Мірaслаў Здрайкоўскі мастацка аформіў. Гэта музычныя дыскі для класаў I–II–III. Калі гаварыць пра эмоцыі, іх адчуваю кожны год на „Басовішчы". Там заўсёды бачу эфекты сваёй працы. Ці як еду на „Трыялогі" і бачу, што мае дзяўчаты працуюць там валанацёркамі. Думаю, беластоцкія выпускнікі гэта будучая беларуская эліта.

**ГК:** — Разам з адкрыццём „Склепу з культурай" Ты стала яшчэ аніматаркай культуры. Вашы праекты як „Падляшскія хронікі" ці „25 АББА Аркестр" знакаміта папоўнілі праграму Агульнапольскага фестывалю „Усход культуры".

**АВ:** — Адно з большых маіх дасягненняў гэта сцэнарый і інсцэніроўка спектакля „Ой даўно, даўно". Першапачаткова мы спадзяваліся, што будзем ездзіць з гэтым спектаклем па школах, а пасля, калі сталі ездзіць



Развітанне з восенню.
Міжшкольная група 1997 г.

па вёсачках, зразумелі, што найфайней выступаць якраз там, для нашых людзей...

**ГК:** — У Машчоне-Панскай, Тымянцы ці Сынкаўцах Ваш спектакль быў пэўным дапаўненнем мастацкай прасторы. Вы выходзілі да людзей падобных на герояў „Падляшскіх хронік".

**АВ:** — Людзі вельмі жыва рэагавалі, перажывалі. Памятаю тыя эмоцыі, смех, але і слёзы. Думаю, гэта было вельмі важнае для ўдзельнікаў. Апрача таго яны стварылі вельмі моцную групу маладых, актыўных людзей. Яны па сённяшні дзень шчыра з сабою сябруюць. Калі разам цяпер нешта робяць, то і пасварацца, і паладзяцца. Здараюцца канфлікты. Пры арганізацыі „Басовішча" нялёгка абысціся без канфліктаў, але потым і так працуюць разам. Дзякуючы ім я таксама навучылася, што часам трэба забывацца пра тое дрэннае, думаць пра тое, што добрае. Дзякуючы гэтым выездам я пазнаёмілася са шмат якімі людзьмі на Беласточчыне. Вядома, вялізны гонар, калі мы выступалі ў Варшаве ці ў Нью–Ёрку. У Нью–Ёрку выступалі ў царкве. Як пабачылі, што там сядзіць Зянон Пазьняк і будзе глядзець наш спектакль, ну, гэта былі вельмі вялікія нервы. А пасля ён выказаў сваё прызнанне, гаварыў як важная справа захаваць сваю мову і дыялекты. Я тады схавалася за заслонкай і проста плакала. Гэта былі вялізныя эмоцыі. І не справа ў тым, што гэта была Амерыка. Думаю, што гэтыя людзі, эмігранты, якія так многа перажылі, глядзелі гісторыі з Падляшша, слухалі, плакалі і спявалі разам з нашымі ўдзельнікамі. Думаю, што кантакты з людзьмі важнейшыя, чым выступ на „Усходзе культуры". Хаця не часта здараецца, што апрача фальклору там пакажуць нешта беларускае. Праект „25 гадоў АББА Аркестр" прыдумаў Юрка Асеннік. Выбралі мы тыя песні, якія нам найбольш падабаліся і вырашылі, што музычным кіраўніком будзе Лявон Вольскі. З Ігарам Варашкевічам, Аляксандрам Памідоравым, з Вольскім мы былі знаёмы, ведалі Кшыся Сяськевіча, але выцягнуць

Спектакль «Ой, даўно, даўно...», Сынкаўцы, 12.06.2011 г.



яго з небыцця на сцэну было вельмі–вельмі цяжка. Падобна было з „Сенькам". Ён смяяўся, што толькі тады выступіць на сцэне, калі Лявон Вольскі пераробіць яго шызафрэнію на рэгі. Для мяне цікава было патлумачыць дзецям словы песень. Напрыклад, у песні „Тры чарапахі", што такое „камунальныя пахі". Здаецца гэта банальна, але няпраўда, гузік банальна! Але калі прагучала такое на сцэне, то сэрца расце. Дзякуючы гэтай працы я перажыла файныя эмоцыі, якіх ніхто мне не забярэ.

**ГК:** — Напачатку Ты сказала, што некалькі асоб выпісаліся з урокаў?

**АВ:** — Маем новы закон, які ўступіў у сілу 1 верасня 2017 года. Ён быў падпісаны 30 жніўня і абавязвае з 1 верасня. У ім выразна гаворыцца што да 29 верасня можна адмовіцца ад навучання. Можа ў іншых школах гэтага не будзе так відаць, а ў нас ужо відаць. Гэта датычыць чацвёртых класаў, дзе было вельмі многа дзяцей. Многія з іх прыйшлі ў „чацвёрку" дзякуючы дадатковым балам, якія можна набраць, калі нехта запісаўся на беларускую мову. Яны, проста не хацелі вучыцца ў сваім раёне. Такім спосабам прыйшлі, а цяпер адыходзяць. Але нават тыя дзеці, якіх бацькі выпісалі ад мяне ў гэтым годзе, як бягуць па калідоры, заўсёды крычаць „Добры дзень"!

**ГК:** — Цягам гэтых 20–ці гадоў былі і іншыя балючыя моманты. Памятаю, калі Табе не дазволілі працаваць у Гімназіі №7, гэта быў вялікі боль для Цябе, вучняў і бацькоў. Што дапамагае перанесці такія паразы?

**АВ:** — Напэўна дапамагаюць сябры — гэта адно. Важна, каб мець такую сям'ю, дзе муж — гэта перш за ўсё твой вялікі сябра. Мой муж глядзіць у гэтым самым кірунку што і я, нам тое самае падабаецца. Праўда, пра гэта не гаворыцца ўголас, але я маю вялікую падтрымку з боку мужа. Няраз, калі нехта прыязджае з Беларусі, то чую такія словы: „О, вы будзеце жонка Ваўранюка, ён так вас расхвальваў". А я думаю: „Чаму ён ніколі мне гэтага не сказаў". З другога боку, вельмі перажываю яго дасягненні і паразы. Гэта вельмі важна. Або, калі чую ад дарослага сына, які зарабляе вялікія грошы, а я пры ім *такая галота*, то ён кажа мне: „Мама, калі б не ты, то ў Беластоку не было б беларускай мовы". Як чуеш такое ад свайго дзіцяці, пра ўсё дрэннае забываеш.
А як звольнілі з гімназіі, то тады я была намнога маладзейшая. Маладым людзям лягчэй перажываць усякія паразы. А цяпер, у сваю чаргу, набіраю такой дыстанцыі. Апрача таго навучылася цаніць тое, што ўмею рабіць, але бачу таксама свае недахопы. Напрыклад, ніколі не буду дырэктарам ніякай школы. Бо з маім характарам не магу быць дырэктарам, не падыходжу. А быць настаўніцай мне вельмі падабаецца.

Трэба забывацца на ўсё, што дрэннае, хаця цяжка мне гэта прыходзіць.

**ГК:** — Значыць, у хаце Коля дырэктар?

**АВ:** — Не, мы хіба так разам дырэктаруем. Думаю, што калі б я не мела такога мужа, напэўна не гаварыла б па–беларуску і не было б у мяне беларускамоўных дзяцей.

**ГК:** — Мяне заўсёды ўражваюць густоўныя рэквізіты — кашулькі, ільняныя сумкі, паштоўкі з вышыванкай. Чаму прывязваеш такую ролю да эстэтыкі, ці яна важна?

**АВ:** — Настаўнік не толькі вучыць ведам. Настаўнік таксама выхоўвае. Нават калі ён не вядзе класа, то ён выхоўвае. Я сама ўмею сказаць брыдкае слова, але ніколі сабе не дазваляю на некарэктныя паводзіны перад дзяцьмі. Стараюся ім гаварыць пра дабро, пра справядлівасць, пра тое, што трэба прытрымлівацца законаў. А калі ўжо вяду мастацкія заняткі, як тэатральны гурток, там інакш нельга. Мастацтва і эстэтыка гэта таксама сэрца.

**ГК:** — Ты адна з такіх настаўніц, у якой самая вялікая колькасць лаўрэатаў па прадметных конкурсах.

**АВ:** — Цяжка ўсіх палічыць, але некаторыя з іх былі некалькі разоў лаўрэатамі конкурсу па беларускай мове. Але гэта не было адразу. На ўсё прыходзіць свой час. Спачатку мне здавалася, што прадметныя конкурсы, яны не такія ўжо важныя. Лічу, што ў навучанні нацыянальнай меншасці самае важнае — гэта будаваць тоеснасць. Трэба сказаць, што да нас прыходзілі выбраныя дзеці, бацькі вельмі свядома пасылалі дзяцей на беларускую мову. Ну і дзеці разумныя! Хто папсаваў бы Колю Здрайкоўскага, які на прадметных конкурсах набірае максімум балаў. Дзеці ўмеюць мабілізавацца, не з'ядае іх стрэс.

У свой час вялікую радасць давала мне падрыхтоўка да дэкламатарскага конкурсу. У мяне былі такія дзеці, пра якіх не скажаш інакш як *zwierzęta sceniczne*.

**ГК:** — У школах дзеці вучацца па Тваіх падручніках. Якое гэта пачуццё?

**АВ:** — Ну, супер, вельмі файна. Але калісь мне было вельмі прыемна, калі я працавала з падручнікам сваёй мамы (Раісы Бурылы — Г. К.). Вельмі любіла *Літарынку*, гэта было такое пачуццё гонару. У маім *Лемантары* шмат з *Літарынкі*.

**ГК:** — Мама для Цябе ўзор жанчыны?

**АВ:** — Як настаўніца — так. А на каго я загледжана? Гэта, так сказаць, на некалькі асоб. Я спалучыла б тры асобы: Бажэну Шрэдэр, Алу Орса–Рамана і Данусю Курань. Гэта вельмі моцныя жанчыны, цвёрдыя, якія не здаюцца.

**ГК:** — Якія пажаданні Аліна Ваўранюк хацела б накіраваць да сябе самой з нагоды слаўнага юбілею?

**АВ:** — Каб яшчэ хапіла сілы на чарговыя гады. Каб нарэшце адчуваць сябе свабоднай, бо я ўсё больш адчуваю, што многае ў нашай краіне мяняецца на горшае.

**ГК:** — Жадаю многа сілы і здароўя, і каб у Тваім жыцці мянялася ўсё на лепшае. Дзякую таксама за дваццаць гадоў плённага і якаснага супрацоўніцтва.

**«Ніва» № 39, 2017 г.**

АБ-БА АРКЕСТР, БАСовішча 2014 г.



**Аліна Ваўранюк** са сваімі вучнямі над „Падляшскімі хронікамі" працавала пяць гадоў. Гэты праект вывучэння хатняй гісторыі XX стагоддзя выліўся ў спектакль „**Ой даўно, даўно... Беларускія гісторыі з Падляшша**" і аднайменную кнігу. Першае выданне кнігі разышлося вокамгненна. Другое было не проста перадрукам, а дапоўнілася чарговымі расказамі і атрымала новае графічнае афармленне. Спектакль маладыя акцёры паказалі сорак разоў, пераважна на Беласточчыне. Перадрукоўваем тут фрагменты артыкулаў Ілоны Карпюк і Мацея Халадоўскага, якія з'явіліся на старонках штотыднёвіка „Ніва" пасля першых прэзентацый спектакля ў Беластоку і Супраслі. А ўражаннямі ад свайго найбольш незвычайнага „турнэ" — па Злучаных Штатах Амерыкі — дзеляцца самі ўдзельнікі праекта.

# Хранікёры беларускай памяці

„**Ой, даўно, даўно... Беларускія гісторыі з Падляшша**" гэта спектакль, які ў мастацкі спосаб падводзіць праект „Падляшскія хронікі". Амаль два гады моладзь, якая вывучае беларускую мову ў беластоцкіх школах, змагалася з матэрыяй гісторыі сваіх сем'яў. Гэтая праца дазваляла адкрываць лакальную гісторыю, пра якую часам ні словам не ўпамінаецца ў час школьных урокаў. Пачынала іх крыху больш, але засталіся Кася Бялькевіч, Дарка Вапа, Ніна Ваўранюк, Дарка Дажынка, Ігар Карнілюк, Оля Мазурук, Лідка Пякарская ды Юлька і Гаўрыіл Скаўронскія. Пералічыць трэба іх па прозвішчы, бо праца, якую ўклалі ў фінальны эфект, гэта адведзены іх свабодны час, гэта цярплівыя сустрэчы з бабулямі, дзядулямі, апрацоўка доўгіх расказаў, удасканальванне сваіх тэатральных здольнасцей, а таксама і цярплівасць аднаго да другога, бо правялі з сабой амаль два гады.

— Калі ў 2008 годзе мы сустрэліся з „Сейненскімі хронікамі", а пасля з „Тэрэмішчанскімі аповесцямі", прыйшло зразуменне, што і нам трэба гэта зрабіць, — гаворыць Аліна Ваўранюк, аўтар сцэнарыя і рэжысёр спектакля. — Яшчэ маем шанс карыстацца ўнікальнымі аповесцямі нашых продкаў, а маем цудоўную моладзь, якой хочацца раскрываць, а перш за ўсё маю надзею працягваць гэты пераказ між пакаленнямі.

Пераказ... які будуе нашу тоеснасць, хочацца дадаць. Якраз гэты пераказ у выпадку малых груп, якіх існаванне пад пагрозай, у тым ліку і многіх нацыянальных меншасцей, надалей мае вялікае значэнне. Даўным даўно сацыёлаг Маргарэт Мід тып культуры, калі старэйшыя пакаленні навучаюць маладшыя, назвала постфігуратыўнай і хаця сучасная цывілізацыя хістае гэтым узорам, мы да яго вяртаемся, каб рэстаўраваць нашу згубленую тоеснасць. Ёсць аднак і іншае пытанне, якое ўзнікае ў кантэксце гэтага спектакля і падобных мерапрыемстваў. Некаторыя ставяць пад сумненне сэнс перажывання мінуўшчыны чарговымі пакаленнямі, асабліва, калі перажыванне надта глыбокае, доўгатрывалае. Кожнае пакаленне гэта дзеці свайго часу, гаворыць Хасэ Артэга-і-Гасет у кніжцы „Што такое філасофія", а ўнікальным спосабам фарміравання пакалення з'яўляецца супольнае генерацыйнае перажыванне, найчасцей на аснове гістарычных падзей. Ці тады так важнае для нас, каб вяртацца да перажыванняў пакаленняў, якіх лёс амаль нам чужы? Пакаленне акцёраў спектакля праўдападобна ніколі не зразумее да канца чым для іх дзядоў была вайна (другая сусветная, іншых у будучыні, на жаль, не можам выключыць). Іх генерацыю будзе будаваць пэўна іншы вопыт, які ў часах далёка постмадэрністычных пакуль што цяжка вызначыць.

Выключнасць сітуацыі меншасці падказвае, што патрэбныя розныя ўзоры, каб памяць і бесперапыннасць захаваліся. Пашана для нашых продкаў нават патрабуе, каб не забываць. Аднак варта помніць, што наймалодшае пакаленне свой свет збудуе па-свойму. Бацькі і адлеглыя продкі ў змозе дастаўляць толькі цаглінкі, якімі дзеці пакарыстаюцца. Іх канструкцыя будзе іншая ды характэрная новаму пакаленню, але несумненна багатая і поўная толькі тады, калі захаваецца ў ёй праўда нашай мінуўшчыны.

**Ілона КАРПЮК**
«Ніва» № 52, 2010 г.

# Так. Так было

Спектакль, а ў прынцыпе аповед бабуль, дзядоў і бацькоў вучняў пераплятаецца пачутымі ў розных мясцовасцях песнямі, перш за ўсё беларускімі, хоць трапіла і яўрэйская. Расказваныя гісторыі паходзяць з Доўгага Броду, Чыжоў, Кнаразоў, Тыневіч, Пасынак, Шпакоў, Рэпіск, Галадоў і Відава. Сцэнічнае афармленне сціплае: куфар, у які акцёры сягаюць (хусткі, ікона, здымак мужчыны), дзевяць столкаў, шырма прыкрытая чорнай тканінай. Да таго сціплае асвятленне. Аповесці тут найважнейшыя, прытым пераказваныя моладдзю — як здавалася ў Супраслі, незалежна ад тлуму гледачоў — без хвалявання і ў вялікай засяроджанасці.

— Важнай справай з'яўляецца ўсведамленне таго, каб паспець у пару сабраць і ў пару запісаць тыя аповеды, бо людзі, якія іх яшчэ пераказваюць, ужо адыходзяць, — сказала нам яшчэ перад супрасльскім спектаклем Аліна Ваўранюк. — Пры нагодзе збірання аповедаў былі размовы аб гістарычных падзеях, якія адбываліся ў вёсках Беласточчыны, і пра бежанства. Аказалася, што, напрыклад, аб бежанстве часу І сусветнай вайны мала хто ўжо можа штосьці расказаць. Большасці сведкаў таго часу няма ўжо ў жывых. Некалькі асоб гаварыла толькі, што ў сям'і хтосьці на тую тэму ўспамінаў. Нам залежала на гісторыях, перажытых асабіста іх героямі. Пры нагодзе працы над спектаклем заняліся мы таксама генеалагічнымі дрэвамі сем'яў, картамі вёсак, якіх датычыць спектакль. Аказалася, што распалажаны яны паміж Белавежскай пушчай і Бельскам-Падляшскім.

Дадала:

— Гісторыі былі вельмі рознымі, як і розныя людзі іх расказвалі. Не ўсе перажылі такое здарэнне як спаленне вёскі Шпакі. Большасць людзей перажыла вайну. Мы рашылі, што пачнем спектакль ад гісторыі, якую запісаў, здаецца ў 1974 годзе, спадар Германюк з гісторыі сямі Дар'і Вапы [вучаніца заангажаваная ў спектакль — М. Х.]. У спектаклі пераказваем яе па-польску, згодна з запісам. Найбольш важкія — трагічныя гісторыі. Мы думалі, што павінны тут апынуцца гісторыі не толькі з часу вайны. Прадстаўленне канчаецца забаўнай гісторыяй бабулі, што паехала на Венгрыю і забылася пра пячатку ў пасведчанні асобы, вярнулі яе з мяжы і бедная бабуля ехала з Зэбжыдовіц праз Варшаву ў Чыжы і мусіла з гэтым неяк справіцца. Здаецца, што такіх слоўна-музычных спектакляў нам не хапала. Для моладзі не найважнейшы сам спектакль, а тое, што засталося ў іх галовах. Зразумелі яны, што калі гэтых гісторый не запішуць цяпер, дык ужо ніхто ніколі не зможа іх расказаць.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**
Ніва № 9, 2011 г.

# Нью-Ёрк, Нью-Ёрк...
## або „Беларускія гісторыі з Падляшша" ў Амерыцы

*Мой родны горад маленькі*
*Маленькі як кропля дажджу...*



Аліна ВАЎРАНЮК

Радкі верша Надзеі Артымовіч назойліва лезлі ў галаву, калі мы вярталіся ў наш Беласток з Нью-Ёрка. Там усё было вялікае-вялікае...

Беларуска-амерыканскае задзіночанне запрасіла беластоцкую моладзь, якая працавала над спектаклем „Ой даўно, даўно... Беларускія гісторыі з Падляшша". Разам з дзясяткай нашых маладых хранікёраў і акцёраў, паляцелі мы з Басяй Пякарскай.

Цяжка пра ўсё расказаць, што мы там бачылі і як нас прымалі. Я ўвесь час была ў поўным захапленні. На Манхатане кружылася галава. Я глядзела навокал і сама сабе зайздросціла, што ўсё гэта бачу. А колькі незабыўных уражанняў ад сустрэч з беларусамі, ад размоў пасля нашых выступаў, іх гасціннасці...

Цяпер ужо снежань, не толькі канікулы даўно закончыліся і трэба хадзіць на працу, але зараз закончыцца і ўвесь гэты незабыўны год. За акном снег, холадна. Гляджу на фотаздымкі, чытаю свае занатоўкі, грэюся ўспамінамі.

### 1 жніўня

Пасля дзевяці гадзін у паветры прызямліліся ў аэрапорце імя Джона Фіцджэралда Кенэдзі. Шмат народу якраз у той момант зляцелася з усяго свету, так што прастаялі мы дзве гадзіны ў чарзе, пакуль афармілі міграцыйныя паперы. Там ужо нас чакала Ала Орса-Рамана з сябрамі. Увесь час лунаў над імі бел-чырвона-белы сцяг.

Да таго месца, дзе нас пасялілі — у доме бацькоў Алы — не было далёка. На машыне ехалі мы няцэлыя паўгадзіны. А за акном было так цікава...

Бяссонная ноч. Ці то з-за розніцы часу, ці ад хвалявання.

### 2 жніўня

Першае снеданне ў Нью-Ёрку. Нашы гаспадары запоўнілі нам халадзільнік розным смакоццем. Толькі хлеб не такі як у нас. Буду есці без хлеба.

Чакаем Алу. Робім сабе кароткі шпацыр па ваколіцы. Побач нашага дому ў квартале Вудгейвен вялікія могілкі з зоркай Давіда на браме. Робім першыя здымкі. На другім баку вуліцы школьны будынак і стадыён для амерыканскага футбола. Крыху далей над Джамейкаавеню рэйкі, прыпынак гарадскіх цягнікоў. Метро ў паветры, над вуліцай!

У кватэры чакае нас ужо Ала. Да халадзільніка прышпілены магнітам план Нью-Ёрка. Пакуль рушым яго пазнаваць, грунтоўная лекцыя геаграфіі ды гісторыі. Абмяркоўваем таксама план нашай пабыўкі.

Першы этап знаёмства з метраполіяй — сярэдні Манхатан. Едзем на метро, якое аказваецца, не толькі падвешанае ў паветры, але і звычайна хаваецца пад зямлю. Нам усё цікава. Ала расказвае гісторыю горада, усё тлумачыць.

Ідзем у *Empire State Building*. Я баюся вышыні, але мяне ўгаварылі і еду разам з усімі на 86-ы паверх. Перад намі Горад! Божа, які краявід! Бачым Статую Свабоды, Цэнтральны парк, Кафедру святога Патрыка і шмат таго, чаго не ўмеем яшчэ назваць.

Вяртаемся з паднябесся на зямлю. Глядзім знізу тое, што бачылі з вышыні. Заходзім у Кафедру святога Патрыка з прыгожымі вітражамі, ідзем на Пятую авеню і 42-ую вуліцу, на Брадвей і пад гарадскую бібліятэку, Цэнтр Ракефелера і сядзібу Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. А вечарам — *Times Square*! Здурэць можна! А гэта ж усяго першы дзень.

## 3 жніўня

Зноў не спіцца...

Едзем з Алай да Бруклінскага моста. Шпацыр па мосце з выдатным праваднікам. Перад намі панарама Манхатана. Зноў бачым Статую Свабоды. За мостам чакае нас Вячка Станкевіч. Далей будзем вандраваць па Нью-Ёрку з ім. Спачатку ідзем... на абед у кітайскі бар. Смаката!

Наш маршрут пачынаецца з месца сумных падзей 11 верасня 2001 года. Цяпер там будуюць новыя хмарачосы. Мінаем *Wall Street* і славутага быка перад нью-ёркскай біржай. Спяшаемся на карабель, якім паплывем на выспу, дзе стаіць Статуя Свабоды. На месцы робім чарговы патрыятычны здымак з бел-чырвона-белым сцягам, які ўзяла з сабою ў Амерыку Кася.

Плывем на чарговую выспу *Ellis Island*. Сюды некалі прыплывалі імігранты, тут чыноўнікі вырашалі лёс многіх людзей. Цяпер тут музей. Шукаем нашы прозвішчы. Потым стаім у доўгай чарзе на карабель і вяртаемся на Манхатан. Ідзем

Times Square



у *China Town*. Вырашылі з'есці вячэру ў кітайскім рэстаране. Гэта быў добры выбар! А на дэсерт — шпацыр па кітайскім квартале і не менш цікавай Малой Італіі. Цудоўнае завяршэнне дня.

## 4 жніўня (субота)

Едзем з Алай цягніком у Саўт-Рывер. Там у Беларускім цэнтры рыхтуюць фэст. Знаёмімся з Надзеяй і Янкам Запруднікамі, Алай Кузьміцкай, Лізай Літаровіч, Лідай Данілюк, Колем Бахарам, Віктарам Турам... Імпрэза такая ж як і ў нас: спевы, танцы, гульні. Але латарэі на Беласточчыне не робяць! Наша моладзь танцуе, гуляе, але відаць па іх стрэс. Сёння першы раз выступаюць — прэзентуюць песні са спектакля „Цацачная крама" на словы Леаніда Дранько-Майсюка з музыкай Анны Бабік. Усе хвалюемся. Нарэшце пачалі. Здаецца, публіцы падабаецца. Падчас песні пра труса людзі падрываюцца да танца, смешыць іх „абычная Свіння", падабаецца „патрыятычны Бусел". Свойская атмасфера фэсту дапамагае моладзі расслабіцца пасля вялікага хвалявання.

Наведваем мясцовую Свята-Ефрасінеўскую царкву, у якой між іншым ікона аўтарства а. Кастуся Бандарука. Потым раз'язджаемся. Юля і Гаўрыіл едуць да бабулі, Даркі ды Юліта — да спадарыні Лізы, Ніна, Лідка ды Ігар — да спадарыні Алы. Басю, Касю, Олю ды мяне Ала вязе ў матэль. Там усё выглядае так як у амерыканскіх фільмах. Тым не менш, цікава самому гэта перажыць.

## 5 жніўня (нядзеля)

Сустракаемся ўсе на багаслужбе ў царкве ў Гайленд-Парку. Святар моліцца на беларускай і ўкраінскай мовах (ён сам з Чарнігава). Мне гэта вельмі падабаецца. Супольна спяваем гімн „Магутны Божа". Царкоўным хорам кіруе чалавек з Беласточчыны. Аказваецца, гэта бацька нашага знаёмага, Янкі Сапяжынскі. У царкве сустракаем таксама дзядзьку нашай сяброўкі Наталлі Жук. Які ж той свет малы!

Пасля багаслужбы ідзем на пачастунак. Нас чакае вялізны торт з надпісам: „Welcome AB-BA". Вельмі прыемна, але і так моцна хвалюемся, бо ж першы раз у Амерыцы будзем паказваць спектакль „Ой даўно, даўно... Беларускія гісторыі з Падляшша". Пачынаем. Сачу за рэакцыяй публікі.Усе ўважна слухаюць. Чую смех, калі Кася гаворыць пра „жоўтыя шлёпанці". Усё як і ў нас, людзі падпяваюць з намі песні, смяюцца, у драматычныя моманты плачуць. Нам было вельмі прыемна, што так далёка нас вельмі добра зразумелі.

Яшчэ наведалі беларускія могілкі ў Іст-Брансвіку. Затым вярнуліся ў Нью-Ёрк, пакінулі сумкі і гайда на начны горад!

## 6 жніўня

Правялі цэлы дзень і вечар з нашай беластоцкай сяброўкай Касяй Гогаль, якая пераехала ў Нью-Ёрк за мужам. Гэта быў дзень бестурботных блуканняў і першага сур'ёзнага шопінгу. Амаль усе мы набылі нейкі абутак! А на абед я першы раз у жыцці ела сушы (спадзяюся — не апошні). Смачна, хутка, танна!

## 7 жніўня

Цэлы дзень правялі з Алай. Спачатку паехалі ў Музей натуральнай гісторыі. Колькі дзён спатрэбілася б, каб усё ў ім паглядзець?! У нас так мала часу, а вакол нас так усяго многа! Так цікава, прыгожа, а якая разнавіднасць экспанатаў!

Пасля музея пайшлі на самыя смачныя гамбургеры ў Нью-Ёрку, а значыць і ва ўсім свеце. Потым Цэнтральны парк, *Imagine*...

Вечарам у метро спыніліся ля музыкантаў. Адзін іграў на гітары і быў адначасна бубначом, а другі спяваў *Stand by Me*. Мы спявалі разам з ім, танцавалі. Было цудоўна!

## 8 жніўня

На Брадвеі глядзелі спектакль *The Phantom of the Opera*. Як прыгожа! Ці гэта сон? Параўноўваем з тым, што бачылі ў Варшаве.

Потым Цэнтр Лінкальна і абед у чарговым кітайскім рэстаране. Усчаліся сваркі, якая страва была смачнейшай. Цяжкі выбар. Добра, што многа шпацыруем.

## 9 жніўня

Едзем на пляж *Coney Island*. Акіян, сонца, вецер, пясок... цудоўна. Нічога не трэба рабіць. Ляжу, загараю. Сапраўдныя канікулы.

Моладзь і Бася ідуць на *rollercoster*. Я баюся. Лепш пасяджу, пагавару з Касяй.

Ідзем на станцыю метро *Brighton Beach*. Надпісы па-расейску, вакол нас гавораць па-расейску. Нарэшце і я ўсё разумею.

## 10 жніўня

Чарговы музей: *Metropolita Museum of Modern art*. Як нам падабалася! Але ж зноў у галаву назойліва лезла пытанне пра час патрэбны на тое, каб усё там пабачыць. Я нават не спадзявалася, што будзе нам там так цікава.

Ідзем на суперпіцу. Потым шпацыруем каля Музея Гугенгайма, ідзем праз Цэнтральны парк у Рыверсайд-Парк. Першы раз баляць мне ногі, але і першы раз вяртаемся раней дадому (каля 20-й). Пасп'яваем у госці да нашай суседкі Стэйсі, якая не раз запрашала нас на амерыканскую ежу. Тут неспадзяванка, у ейнага сына Антоны — дзень нараджэння, яму споўнілася сем гадоў. Маем гасціну.



Бруклінскі мост

## 11 жніўня

Цэлую суботу самі глядзім горад, між іншым вандруем праз *China Town*, наведваем храм Буды.

## 12 жніўня

Нядзеля. Едзем у царкву на Брукліне. Наперадзе ў нас чарговы выступ. На багаслужбе няшмат вернікаў, але потым... Колькі людзей! І дзеткі, і моладзь, і старэйшыя. Пачынаем вершамі Ларысы Геніюш, каб потым перайсці да спектакля „Ой даўно, даўно...". У першым радзе заслуханы Зянон Пазьняк. Пасля выступу чуем у наш адрас столькі цёплых слоў, што забываем ранейшае хваляванне. Атрымліваем падарункі — цудоўныя кубкі Ксені Капытка. Непаўторная атмасфера. Калі слова бярэ Пазьняк і пачынае нас хваліць, слёзы самі цякуць па твары, не магу іх стрымаць.

## 13 жніўня

Пара збірацца дадому. Наведваем вялізны гандлёвы цэнтр, купляем падарункі. Дзень народзінаў Юліты, які пачалі святкаваць ужо ноччу, працягваем пасля цяжкіх пакупак вечарам. Ала і Валеры Дворнік рыхтуюць адмысловую вячэру. Ямо „ажно трасуцца вушы" і слухаем расказы нашай гаспадыні. Так нам разам добра. Спадар Валеры дае кожнаму з нас падарунак: срэбны ефрасіннеўскі крыжык.

## 14 жніўня

Шчыльна пакуем нашы валізкі і сумкі. Ідзем у прадуктовую краму, якая па-суседску з нашым домам. На дарогу яшчэ хуткая закуска — піца. Развітваемся з суседкай Стэйсі. Дарога на лётнішча *JFK*. Развітанне з Алай...

## 15 жніўня

Лётнішча Шапэна ў Варшаве. Усё ідзе вельмі хутка. Пад'язджае наш бус, загружаемся. Праз дзве з паловай гадзіны будзем дома.

Ці я ўсё гэта сапраўды бачыла і перажыла, ці гэта быў толькі сон? Канікулы маіх мар! Сардэчна дзякую за іх маім старым беластоцкім і новым амерыканскім сябрам!

**Аліна ВАЎРАНЮК**

**P. S.**

Свет, гэта і праўда — глабальная вёска. А мары, нават найбольш нерэальныя, здзяйсняюцца. Я ўпэўненая! Верыць у тое і наша моладзь. Вось жменька іх успамінаў, уражанняў ад нашай паездкі.

## Оля Мазурук

Калі я ляцела ў Нью-Ёрк, думала пра адно: ці Амерыка сапраўды такая як у фільмах? Я не магла ў самалёце заснуць, усё думала, што я там убачу.

Ужо ў першы дзень — хаця я бачыла горад толькі праз акно машыны — я зразумела, што гэта іншы свет і мне ён падабаецца. Паўсюдна разнастайныя людзі, з розным колерам скуры, у рознай вопратцы, а ў кожнага свае звычаі, уласная традыцыя. І ўсе адзін аднаго шануюць. А ў нас на Беласточчыне здараецца нам адчуць, што мы, беларусы, непажаданыя, хаця мы ж у сябе.

Цяжка вызначыць, якое месца з тых, што мы глядзелі, мне найбольш спадабалася: Эмпайр-стэйт-білдынг, Чайнатаўн ці Статуя Свабоды? А можа пабыўка ў тэатры на Брадвеі? Усе гэтыя месцы запалі мне ў сэрцы, аднак найбольшыя ўражанні ад сустрэч з беларусамі Амерыкі! Хаця яны так далёка ад бацькаўшчыны, за больш чым паўстагоддзя захавалі не толькі сваю мову і традыцыю, але і збудавалі беларускія цэнтры культуры і цэрквы.

Перад выступамі, ці то ў Саўт-Рыверы, Гайленд-Парку ці Брукліне я вельмі хвалявалася. Ці амерыканскія беларусы зразумеюць, пра што наш спектакль, ці зразумеюць нашы падляшскія гутаркі, песні? Хвалявалася я дарэмна, яны ўсё выдатна зразумелі. Гэта было відаць па рэакцыі публікі: слёзы на вачах, смех ці хаця б шчырыя размовы пасля спектакля і падзякі, якія мы атрымалі.

Хаця мне толькі сямнаццаць гадоў, я ўпэўненая, што таго падарожжа ніколі не забуду. Пасля яго я яшчэ мацней адчула гордасць, што я — беларуска.

Вялікі дзякуй усім, хто спрычыніўся да нашай паездкі, а самае вялікае дзякуй спадарыні Але Орса-Рамана за тое, як нас прыняла і за сэрца, якое нам аддала.

## Кася Бялькевіч

Калі мы ляцелі, ляцелі і ... ляцелі ў Амерыку, я не думала, што ў нас наперадзе столькі ўражанняў, эмоцый і сустрэч з цудоўнымі людзьмі. Ужо тое, што нас чакалі ў аэрапорце з бел-чырвона-белым сцягам было вельмі прыемнай нечаканасцю. Другое станоўчае здзіўленне, што нас так усе сардэчна прымалі. Трэцім сюрпрызам быў сам Нью-Ёрк! Я не ўяўляла, што ён такі вялікі і прыгожы!

Спадарыня Ала рабіла ўсё, каб мы адчувалі сябе як дома. Калі расказвала пра Нью-Ёрк, дык укладвала ў гэта ўсё сваё сэрца. Пасля ейных расказаў, а таксама спадара Вячкі Станкевіча, я закахалася ў гэты горад і хацела б туды з'ездзіць, прынамсі яшчэ раз.

Калі мы вылятаі, плакалі ад хвалявання і шчасця, што маглі тут пабываць і паказаць наш спектакль беларусам Амерыкі.

## Ігар Карнілюк

Першага жніўня позным вечарам прызямліліся мы ў міжнародным аэрапорце імя Джона Ф. Кенэдзі. Пасля гадзіны ў «імігрэйшын» адшукалі наш багаж і зараз сустрэла нас спадарыня Ала Орса-Рамана. Разам са сваімі сябрамі з Беларуска-амерыканскага задзіночання (БАЗА) запрасіла нас у Нью-Ёрк і цяпер вітала нас з бел-чырвона-белым сцягам.

Кватэра, у якой мы жылі знаходзіцца непадалёк Джамейка авеню.

Ужо дзень пазней паехалі на Манхатан, дзе пабачылі, між іншым, каталіцкую кафедру святога Патрыка, пабудаваную ірландцамі ў XIX ст., якая з'яўляецца найвялікшым неагатычным касцёлам у Паўночнай Амерыцы. Вечарам першы раз пабачылі Брадвей, вуліцу тэатраў і сусветнай славы мюзіклаў. У той самы дзень падняліся на Эмпайр-стэйт-білдынг, адкуль маглі захапляцца шырокай панарамай Нью-Ёрка.

Трэцяга жніўня перабраліся з Брукліна на Манхатан Бруклінскім мостам. Пабачылі Зону Нуль — месца, дзе 11 верасня 2001 г. самалёт, накіраваны тэрарыстамі, ударыў у вежы WTC, у гэты час

самыя высокія будынкі ў свеце. Потым перабраліся суднам на астравы Свабоды і Эліс. Нашым праваднікам і апекуном быў спадар Вячка Станкевіч.

Чацвёртага жніўня, у суботу, пераехалі ў Саўт-Рывер, які з'яўляецца адным з цэнтраў беларускай эміграцыі. У гэтай маленькай мясціне адбываецца Беларуска-амерыканскі фестываль. З нагоды мясцовага свята мы выступілі са спектаклем «Цацачная крама» на вершы Леаніда Дранько-Майсюка. Вечарам не вярталіся ў Квінс, толькі пераначавалі ў мясцовых беларусаў. Мяне і яшчэ дзве сяброўкі гасціла спадарыня Ала Кузьміцкая. Цудоўная гаспадыня адразу вечарам пачаставала нас марожаным. Потым доўга з ёй мы гаварылі. Яна расказвала пра жыццё ў Амерыцы, сваю сям'ю і мясцовых беларусаў.

На наступны дзень выступілі са спектаклем «Ой даўно, даўно» ў царкве ў Гайленд-Парку, пасля нядзельнай літургіі. Увечары яшчэ паспелі паехаць у Манхатан, аднак праліўны дождж перабіў нашы багатыя планы.

Панядзелак правялі, галоўным чынам, у крамах, шукаючы патрэбных нам электронных прадуктаў і вопраткі. Нашым праваднікам была спадарыня Кася. З ёю маглі пабачыць Нью-Ёрк у зусім іншай перспектыве.

У аўторак наведалі Музей натуральнай гісторыі. Маглі там пабачыць, між іншым, багатую калекцыю шкілетаў дыназаўраў і іншых перадгістарычных звяроў, камяні і мінералы з усіх старонак зямлі, а нават з космасу.

У сераду на славутым Брадвеі мы пабачылі «Прывід оперы» ў тэатры «Маджэстык». Гэты мюзікл найдаўжэй паказваюць з усіх спектакляў на Брадвеі, а сам тэатр — адзін з найбольшых у Нью-Ёрку.

У чацвер адпачывалі на пляжы на Брукліне. Пасля купання і загарання перайшлі ў Коні-Айланд луна-парк са шматлікімі атракцыёнамі. Потым шпацыравалі па Брайтан-Біч, раён заселены эмігрантамі з былога СССР. На вуліцах маглі мы пачуць расейскую мову і пабачыць рускамоўныя шыльды.

Пятніцу правялі захапляючыся мастацкімі творамі ў Метраполітэн-музеі, найстарэйшым і найвялікшым музеі ў Амерыцы. Калекцыя нью-ёркскага асяродка абымае ўсе мастацкія формы ад дэкаратыўнапрыкладнога мастацтва, да народнага. У калекцыю карцін уваходзяць, між іншым, творы Рэмбранта, Рафаэля, Манэ, Рэнуара,



На Брукліне ў царкве Кірылы Тураўскага

ван Гога, Пікаса і Клімта. Музей знаходзіцца побач Цэнтрал Парку, які гэтага дня мы таксама наведалі. Хвіліну спыніліся пры помніку Джону Ленану, які быў застрэлены побач сваёй хаты непадалёк гэтай часткі парку, названай Страўберы Філдс.

На наступны дзень зноў шпацыравалі па вышэйзгаданым парку, які знаходзіцца ў самым цэнтры Манхатана. Аднак суботу закончылі тым, што пераехалі метро на станцыю Баверы ў Чайнатаўн, найвялікшы анклаў кітайцаў на заходнім паўшар'і. Маглі там пабачыць будысцкую святыню, пагоды і кітайскае пісьмо. Чайнатаўн гэта таксама цэнтр гандлю падробленымі таварамі.

У нядзелю выступілі са спектаклем «Ой даўно, даўно» ў царкве на Брукліне.

У панядзелак, дзень перад вяртаннем дамоў, рабілі апошнія пакупкі ў гандлёвым цэнтры ў Квінсе, які рэкамендавалі нам суседзі з нашага дому. Вечарам прыехалі спадарыня Ала і спадар Валеры развітацца і апошні раз пагаварыць. Ноччу сядзелі і яшчэ доўга задавалі спадарыні Але пытанні пра яе жыццё, Амерыку і беларусаў у замежжы. Атрымалі таксама срэбныя ефрасіннеўскія крыжыкі ад спадара Валерыя, які займаецца ювелірнымі вырабамі.

У аўторак 14 жніўня селі ў самалёт у Польшчу.

## Юліта Тымашэвіч

Падарожжа ў Амерыку было незабыўнае! Пабачылі мы найцікавейшыя месцы ў Нью-Ёрку. Першае, што мяне захапіла, гэта панарама горада з вышыні. Наведалі мы два музеі: натуральнай гісторыі і мастацтва. Мне больш спадабаўся гэты другі, таму што магла там паглядзець вельмі цікавыя карціны, здымкі, скульптуры. Паплылі мы таксама да Статуі Свабоды. Аднаго дня зрабілі перапынак і паехалі купацца ў акіяне.

У Нью-Ёрку мне ўсё вельмі падабалася. Гэты быў для мяне вельмі важны выезд, перш-наперш таму, што пазнала там цікавых людзей, адданых беларушчыне людзей.

## Юлька Скаўронская

Гэта немагчыма! Мы ляцім з нашым спектаклем у Амерыку? То відаць жарт. Такія думкі кружыліся ў маёй галаве, пакуль я не ўпэўнілася, што мая мара здзейсніцца. Трэба толькі дачакаць канікулаў, а папраўдзе 1 жніўня, калі пачыналася наша вялікая прыгода.

Шчасліва прызямліліся мы ў Нью-Ёрку, дзе чакала нас з бел-чырвона-белым сцягам спадарыня Ала Орса-Рамана. Адразу першага дня дамовіліся, што будзем глядзець. І сапраўды, глядзелі ўсё, што толькі змаглі, ад 86 паверха *Empire State Building*, па *Chinatown*. Бачылі самыя вядомыя нью-ёркскія вуліцы, багатыя музеі, пабывалі ў луна-парку. Вялікае ўражанне пакінулі беларускія цэрквы і вельмі мілыя людзі ў іх. З прыемнасцю ўспамінаю, як пасля нашага выступу падышла да нас адна пані са сваімі знаёмымі, каб паразмаўляць і разам з намі паспяваць. Такіх сустрэч было многа, немагчыма ўсе апісаць, але адна асаблівая запала ў маёй памяці. Гэта доўгая размова са спадарыняй Алай напярэдадні нашага ад'езду, калі яна нам расказвала пра сябе, сваё дзяцінства, гісторыю сям'і ды іхнюю складаную дарогу ў Амерыку.

Важнае для мяне было таксама тое, што дзякуючы тым усім людзям, якія спрычыніліся да нашай паездкі, я магла таксама спаткацца з маёй бабуляй, якая жыве ў Амерыцы. Ніколі не забуду гэтага падарожжа. Яго папросту немагчыма забыць!

## Дарка Дажынка

Усе пытаюць, як было ў Амерыцы, а я не ведаю, што адказаць. Усіх уражанняў немагчыма апісаць! Нью-Ёрк гэта зусім іншае жыццё! Мы вельмі многа пабачылі: Эмпайр-стэйт-білдынг, Манхатан з Брадвеем і Пятую авеню, Бруклін і шмат чаго больш. Пасмакавалі амерыканскую піцу і кітайскую ежу

Аднаго не забуду ніколі: людзей, якія нас запрасілі, каб мы ім паказалі тое, над

чым так доўга працавалі тут на Беласточчыне! Для мяне была гэта вялікая ўзнагарода паказаць нашу працу, але і пабачыць так многа цудоўнага.

Вельмі мне тая паездка спадабалася. Я б яшчэ хацела туды вярнуцца. А ўражанняў прывезла адтуль столькі, што не забуду іх да канца жыцця.

## Гаўрыіл Скаўронскі

Гэта быў мой трэці выезд у Амерыку, таму я яго так не перажываў як астатнія. Думаў, што нічога новага там не ўбачу. Як я памыляўся. Найбольшай неспадзяванкай стала для мяне тое, як цёпла ўсюды нас сустракалі. Я нават не думаў, што людзі могуць так сардэчна займацца незнаёмымі ім раней асобамі. Іншая рэч, на якую я звярнуў увагу, гэта аптымізм амерыканцаў. Для іх кожны дзень — добры. У нас няма чагосьці такога. Захапіў мяне Нью-Ёрк. У гэтым горадзе можна сустрэць людзей з цэлага свету. Публічная камунікацыя там вельмі добрая, таму лепш не ездзіць на сваім аўтамабілі. Мне практычна ўсё там падабалася. Таму хачу сказаць усім асобам, якія дапамаглі нам у гэтай паездцы, так з Польшчы, як і з Амерыкі, вялікі дзякуй!

## Ніна Ваўранюк

Я яшчэ цяпер помню, як у кастрычніку мінулага года мы пачулі пра магчымасць паездкі ў Нью-Ёрк. Былі і слёзы, і крык. Мы не маглі паверыць у такую неспадзяванку. Яшчэ пару месяцаў перад гэтым мы сабе жартавалі і спявалі прыдуманую песню, у якой словамі былі назвы мясцовасцей, дзе мы выступалі, а на канец гучаў *Broadway*! Ніхто з нас і не думаў тады, што мары здзейсняцца і хаця не на Брадвеі, то ўсё-такі выступім у Амерыцы.

Яшчэ да канца ліпеня гэта ўсё здавалася нечым нерэальным, а ўжо прыйшло нам пакавацца. Тады гэтыя дзевяць гадзін лёту здаваліся вечнасцю, а цяпер мне здаецца, што я ледзь паспела заплюшчыць вочы, а ўжо мы апынуліся на амерыканскай зямлі. Для большасці з нас гэта быў першы раз «за акіянам» і мы былі пад вялізным уражаннем ад таго, што ўбачылі. Нават не былі, а як пісала Ларыса Геніюш, ёсць і будзем! Мы сустрэліся з цудоўнымі людзьмі. Відаць, народ беларускі сапраўды надзвычайны. Перажылі ў Нью-Ёрку і ўбачылі многа: вечар на *Times Square*, краявід з Эмпайр-стэйт-білдынг, шпацыр па Бруклінскім мосце. Бачылі Статую Свабоды, былі на мюзіклі на Брадвеі, а нават сустрэлі Снуп Дога (Snoop Dogg)! Але галоўнай мэтай нашай паездкі былі прэзентацыі нашага спектакля. У нас стрэс быў вельмі вялікі і ён не адыходзіў да апошняй секунды кожнага выступу. Я не спадзявалася, што калі-небудзь у жыцці я буду прымаць пахвалы ад такіх асоб як спадарыня Ала Орса-Рамана, ці спадар Зянон Пазьняк.

Гэтыя два тыдні ў Амерыцы цяпер здаюцца нейкім цудоўным сном. Я нашу бранзалетку з надпісам: Нью-Ёрк, каб не забыць таго, што пабачыла, людзей, з якімі пазнаёмілася ці духаты, якая, здавалася, не давала жыць, а цяпер думаю сабе „духата"? Якая духата? Сапраўды, як мы пачулі ад сп. Алы: Нью-Ёрк мае ўсё: усё, што найлепшае, як і дрэнныя рэчы. Але мне Нью-Ёрк найбольш прыводзіць на думку цудоўную ўсмешку, якая не гасне нават на мінутку!

## Дарка Вапа

Ой, як добра ў гэтым Нью-Ёрку! Колькі цікавых месцаў, для прыкладу Чайнатаўн ці Метраполітэн-музей, у якім мы маглі паглядзець карціны ван Гога, Уорхала, пабачыць вопратку праектаваную славутымі дызайнерамі ці традыцыйнае адзенне жыхароў старажытнага Егіпта. Ніхто з нас таксама не забудзе краявіду з 86 паверха Эмпайр-стэйт-білдынг. Моцна ўразіў нас Манхатан. Моцна дапякла нам спёка, ад якой ратаваліся ў акіяне.

Самым галоўным аднак лічу тое, што мы пазнаёміліся з беларусамі Амерыкі:

спадарыняй Алай Орсай-Рамана, спадаром Вячкам Станкевічам, спадарствам Запруднікамі і многімі іншымі. Немагчыма апісаць, як яны нас цёпла прымалі ад самага пачатку, калі сустрэлі нас з бел-чырвона-белым сцягам. Дзякуючы ім наведалі мы многія месцы, сустрэлі людзей, якім блізкая беларуская культура.

За гэта ўсё ШЧЫРА ДЗЯКУЮ! Гэта быў гонар і прыемнасць з Вамі пазнаёміцца!

## Лідка Пякарская

American Dream

Часта гаворыцца пра „амерыканскі сон". Я заўсёды думала, што каб ён споўніўся, трэба цудаў. І што трэба чакаць яго ўсё жыццё. Дванаццаць месяцаў назад я нават не думала пра падарожжа ў Амерыку. І менавіта тады здарыўся цуд. Назаўсёды запамятаю пачатак кастрычніка 2011 года, калі мы, хранікёры, ішлі на сустрэчу з нашай паняй Алінай і бацькамі. Тады ўпершыню пачулі, што магчыма паляцім за акіян. Прызнаюся, слёзы закруціліся мне ў вачах. І думаю, не толькі мне. Ах, як хацелася адразу напісаць у фейсбуку, каб усе ведалі, якія мы шчаслівыя!

Школьны год прайшоў, нават не ведаю калі, палова канікулаў таксама. І надышло 1 жніўня, калі наша дванаццатка пакавала сумкі ў бус, каб ехаць у Варшаву на аэрапорт. Усю дарогу паўтаралі: «не верым, што мы сапраўды туды едзем». Не ўмею апісаць словамі сваіх пачуццяў, калі мы прызямліліся на лётнішчы *JFK*. Гэта здавалася нерэальнае, немагчымае. Потым сустрэча са спадарыняй Алай і яе сябрамі, якія чакалі нас з бел-чырвона-белым сцягам, супольнае падарожжа ў *Queens*, дзе мы мелі два тыдні жыць... Столькі ўражанняў, што цяжка ўявіць, не то што расказаць.

Калі ў мяне пытаюць, як было ў Амерыцы, я магу сказаць адно: вельмі добра! Бо як апісаць словамі адны з лепшых двух тыдняў у жыцці? Тыдні, калі я не толькі пабачыла месцы з маіх мар, але таксама пазнаёмілася з людзьмі, якіх ніколі не забуду. Два тыдні, з якіх я вынесла так многа!

Памятаю, як першага дня мы глядзелі праз вокны метро і захапляліся ўсім навокал. Момант, калі мы выйшлі з-пад зямлі на Манхатан, я запісала на камеру, гэта было так важна. Адчуванні на 86 паверсе *Empire State Building*, калі глядзелі панараму Нью-Ёрка, каляровыя рэкламы на *Times Square*, мюзікл *The Phantom of the Opera* — усё гэта было нават прыгажэйшым, чым я раней сабе ўяўляла. Прызнаюся толькі, спадзявалася, што Статуя Свабоды большая...

Ніколі не забуду паездкі ў *New Jersey*, дзе мы прысутнічалі ў беларускім фестывалі ў *South River*. Я ўдзячная лёсу, што пазнаёмілася са спадарыняй Алай Кузьміцкай, у якой мы начавалі. Яна прыняла нас як сваіх дзяцей, расказала нам пра сваё жыццё ў Штатах. Дзякуючы ёй я палюбіла фісташкавае марозіва.

Нашы выступленні для амерыканскіх беларусаў былі аднымі з цяжэйшых, таму што ўсе мы моцна хваляваліся. Ведалі, што гэта вельмі важна, каб добра выступіць. Мяне яшчэ цікавіла, ці зразумеюць нас, бо ж нашы «Хронікі» на дыялектах падляшскіх вёсак, а не на літаратурнай мове. Аднак як кажуць: хто хоча, зможа. Усё было зразумелае. Я была вельмі рада, што гісторыі з нашай Беласточчыны спадабаліся за тысячы кіламетраў ад таго месца, дзе былі запісаны і апрацаваны ў форме спектакля.

Спадарыні Алы Орсы-Рамана не апісаць ніякімі прыметнікамі. Спосабу, у які расказала першага дня пра Нью-Ёрк, усяго таго, што нам паказала, куды завяла — ніколі не забуду. Апошняга вечара на супольнай вячэры спадарыня Ала расказала нам пра сябе, сваю сям'ю, пра тое як апынуліся ў эміграцыі. Такога ўроку не забыць, бо кожны сказ плыў з сэрца, быў шчыры, праўдзівы. Цяпер ведаю, чаму мая мама гаварыла пра яе як пра свой аўтарытэт. Гэта быў гонар пазнаць так цудоўную асобу.

Дзякую усім тым, хто спрычыніўся да здзяйснення нашага «амерыканскага сну».

# Не было ні аднаго дня, каб не гаварылі пра Беларусь



Барбара ПЯКАРСКАЯ

Беластоцкая моладзь у жніўні 2012 года пабывала ў Злучаных Штатах Амерыкі (паказваючы там м.інш. спектакль „Ой даўно, даўно... Беларускія гісторыі з Падляшша”). Наш апошні вечар у Нью-Ёрку правялі мы са спадарыняй **Алай Орса-Рамана** і **Валерым Дворнікам**. Была вельмі смачная вячэра і торт (у Юліты быў дзень нараджэння). Спадар Дворнік падараваў нам ім самім зробленыя ефрасіннеўскія крыжыкі. Сустрэча была нагодай для таго, каб моладзь лепш пазнала асобу, дзякуючы якой ажыццявілася наша падарожжа. Ала Орса-Рамана нарадзілася ў адным з гістарычных цэнтраў Беларусі — Наваградку. Радзіму пакінула дзіцём не па сваёй волі.



**— Ці захаваліся ў Цябе нейкія ўспаміны з Наваградка?**

Так, але я не ўпэўненая, ці гэта мае ўспаміны, ці расказы бацькоў. У нашай хаце ў Нью-Ёрку заўсёды было шмат людзей. Усе беларусы трымаліся разам, стараліся дапамагаць адзін аднаму. І ўвесь час успаміналі сваё жыццё ў Беларусі. Не было ні аднаго дня, каб не гаварылі пра Беларусь. Не было ніводнага свята, каб, падняўшы чарку, не казалі: вып’ем за тое, каб наступнае свята правялі мы ў свабоднай Беларусі. Жылі марай і надзеяй, што вернуцца ў Беларусь. Мае бацькі ніколі не вярнуліся. Мама дачакалася нашай з „Васільком” паездкі на Беласточчыну. Калі я маме расказвала, як на лётнішчы сустракалі нас з бел-чырвона-белым сцягам, яна плакала.

**— Твае бацькі былі знакамітымі педагогамі. Усё сваё жыццё працавалі ў карысць беларускай адукацыі. Як**

**маладыя людзі нелегальна паехалі вучыцца ў Прагу, каб здабытыя там веды выкарыстаць потым на радзіме.**

— Так, мае бацькі ў міжваенны перыяд вучыліся ў Празе ў Карлавым універсітэце. Мама закончыла філалагічны факультэт, а тата прыродазнаўчы і нават зрабіў дактарат, што ў тыя часы было рэдкасцю. Калі вярнуліся ў Навагрудак, які тады быў пад Польшчай, улады прызналі іхныя дыпломы, але далі ім нейкую кару за тое, што нелегальна перайшлі мяжу. Бацькі разам з іншымі пачалі працу над стварэннем беларускай гімназіі. На Навагрудчыне быў вельмі моцны беларускі рух, шмат свядомых людзей. Калі яны стваралі беларускую гімназію ў Навагрудку, хадзілі па вёсках, намаўлялі сялян, каб пасылалі туды вучыцца сваіх дзетак. Пабудавалі гімназію за грошы ахвяраваныя бацькамі і настаўнікамі, ды і сваімі рукамі. Сяляне, напрыклад, прыносілі мяшкі бульбы, прадавалі яе і за тыя грошы куплялі цэглу. У гімназіі працавала 15 настаўнікаў, але толькі трое атрымлівалі заплату ад урада, мой бацька быў адзін з траіх. І гэтыя тры зарплаты дзялілі на ўсіх настаўнікаў. Гімназія квітнела, вучняў прыбывала. Узровень навукі быў сапраўды высокі. І калі польскі ўрад пабачыў, што гэта гняздо беларускасці, распусціў гімназію, а настаўнікаў раскінуў па Польшчы. Мае бацькі трапілі ў Коньске пад Варшавай. Тата вучыў у польскай школе, не мелі права вярнуцца дахаты. І толькі калі немцы напалі на Польшчу, мае бацькі на роварах вярнуліся ў Беларусь.

**— Вярнуліся, каб вучыць маладых беларусаў, а прыйшлося развітацца з радзімай назаўсёды...**

— Так, пад саветамі і пад немцамі жылі нядоўга. Бацькі ўвесь час працавалі ў беларускай школе. Выехалі з Навагрудка як фронт варочаўся на захад. Пайшлі, як стаялі. Ведалі, што пад саветамі чакала іх смерць. Так ішлі цэлыя калоны людзей з Беларусі, Украіны, Польшчы. Мільёны людзей уцякалі, каб не жыць пад камуністамі. Помню, што спачатку мы ішлі пешкі, потым адкульсьці з'явіўся ровар, яшчэ пазней нас некалькі сем'яў ехалі возам. Сяляне дапамагалі. На канец немцы заладавалі нас у вагоны, такія з зачыненымі наглуха дзвярыма. Прыехалі ў Нямеччыну ў Берлін. Там былі беларускія арганізацыі, вакол якіх гуртаваліся нашы людзі. Потым немцы перавезлі нас у Турынгію, у нейкі лагер для чужынцаў. Там было шмат беларусаў, але жыццё было цяжкае, вельмі цяжкае — не было чаго есці. Палягчэла толькі тады, як прыйшло амерыканскае войска. Нам цяжка было паверыць, што яны былі добрыя да нас. Перш за ўсё накармілі нас. Мы прыехалі ў беларускі ДП–лагер у Рэгэнсбургу і адразу жыццё змянілася.

**— Паўстала славутая гімназія імя Янкі Купалы, якая стала кузняй будучай беларускай эліты ў эміграцыі. Дырэктарам стаў Твой бацька Аляксандр Орса, а Ты там пачала сваю адукацыю.**

— У Нямеччыну выехала шмат інтэлігентных людзей, з высокай адукацыяй, мастакоў, спевакоў, напрыклад, цэлы менскі тэатр быў у нашым лагеры. Пачалося вельмі інтэнсіўнае беларускае жыццё. Мой бацька адразу пачаў закладаць школу — гімназію. І быў абраны яе дырэктарам. Гімназія працавала на высокім узроўні, шматлікія яе матурысты прадаўжалі навуку ў нямецкіх універсітэтах. Я б сказала, што гэта быў, магчыма, адзін з лепшых перыядаў у маім жыцці. Я там навучылася і спяваць, і танцаваць, пазнала беларускую гісторыю і літаратуру. Маё захапленне балетам бярэцца з таго часу. Нас шмат застаўлялі вучыць на памяць, кніжак было мала. „Новую зямлю" я амаль усю на памяць ведала. Беларушчына там квітнела. Усе гарэлі любоўю да Беларусі, жылі надзеяй, што зараз усё зварухнецца і Беларусь будзе незалежная.

**— Але не зварухнулася. Хутка выявілася, што вяртання няма і хутка не будзе.**

— Так, у 1949 годзе ДПістаў пачалі развозіць па свеце і зачыняць лагеры. Розныя краіны патрабавалі работнікаў і бралі да сябе перасяленцаў на працу. Мы прыехалі ў Нью-Ёрк да мамінай цёткі. Як тата знайшоў працу (адразу на будоўлі а пасля некалькіх месяцаў у біялагічнай лабараторыі), мы увабраліся на сваю кватэру.

**— Як успамінаеш пачатак амерыканскай адукацыі?**

— Я адразу пайшла ў пачатковую школу. У класах было па 20 і больш дзяцей. Я нікога не ведала, не ведала англійскай мовы. Усё навокал было чужое, іншае. Помню, на нейкім уроку настаўніца спытала, што для нас у жыцці важнае? Амаль усе дзяўчаты амерыканкі адказвалі, што самае важнае гэта добра выйсці замуж. А як прыйшла мая чарга адказаць, то я сказала, што для мяне самае важнае, каб Беларусь была незалежнай! Яны мяне не разумелі, а я іх. Адчувала велікую розніцу між мной і амерыканцамі. Яны не ведалі, што такое вайна, не чулі пра Беларусь, яны глядзелі на жыццё зусім іншымі вачыма.

**— Колькі часу спатрэбілася, каб стаць выдатнай вучаніцай у чужой краіне?**

— Нядоўга. Гэта дзякуючы маім бацькам, якія мяне падтрымлівалі ў маёй навуцы. Матэматычныя навукі мне прыходзіліся не цяжка, там не трэба было пісаць і гаварыць па-англійску. І вучылі вельмі добра. Англійскую мову вывучыць, каб адчуваць сябе выгадна, заняло 8-10 гадоў. Вучылася добра таму, што бацькі вымагалі. А я хацела быць танцоркай.

**— Шкадуеш?**

— Не шкадую, бо, як мой бацька казаў, гэта вельмі кароткая кар'ера, а мы прайшлі вайну, голад, холад і ён мне моцна раіў вучыцца нешта больш практычнае. Так я стала хімікам (доктарам па крышталяграфіі, прафесарам у Нью–ёркскім гарадскім універсітэце — Б. П.). Не шкадую таксама таму, бо я ніколі не перастала танцаваць. І калі з'явілася больш часу, я вярнулася да балета і пачала браць лекцыі два разы ў тыдзень. Але што гэта за балет два разы ў тыдзень? Гэта як адзін крок уперад і два назад. Усё балела, увесь час. Амаль сорак гадоў праіснаваў таксама наш танцавальны гурт „Васілёк", якім я кіравала і сама танцавала. У мяне было такое падвойнае жыццё, амерыканскае і беларускае, бо без беларускіх спеваў і танцаў я не магла жыць.



Беларускія могілкі ў Іст-Брансвіку

**— Калі нехта кажа „Васілёк” адразу думаецца: Ала Орса-Рамана. Ты была яго апякункай ад пачатку і да канца.**

— „Васілёк” пачаўся недзе 40 гадоў назад. Мы прымалі ўсіх ахвотных. Не адкідалі нікога. Усе былі аматары. Практыкаваліся сістэматычна па пятніцах, а калі быў нейкі вялікі канцэрт, сустракаліся і два–тры разы ў тыдзень. Канцэрты былі па суботах-нядзелях. Мы ездзілі па ўсёй Амерыцы, выступалі ў маленькіх і вялізных залах. Галоўнай мэтай дзейнасці „Васілька” было распаўсюджваць веды пра Беларусь. Мелі прыгожыя касцюмы, танцавалі ў наваградскіх лапцях. Іх спачатку рабіў нам спадар Верабей, з Наваградчыны. Потым ён даў нам узор і навучыў нас усіх (дзяўчат таксама), як рэзаць і сшываць лапці. Найлепей навучыўся Коля Бахар. Каб прыйшлося цяпер зрабіць такія лапці, я, думаю, зрабіла б.

**— Адкуль Ты ведала беларускія танцы?**

— Народным танцам я вучылася перш за ўсё ад Вілачкі Ляўчук — танцоркі менскага тэатра. А таксама з кніжак беларускіх танцаў выдадзеных у Савецкім Саюзе. Прыстасоўвала іх да нашых здольнасцей. Мы таксама хадзілі тут да нашых старэйшых беларусаў і пыталі, якія ў іх танцавалі танцы. Яны паказвалі нам танцавальныя фігуры, а мы тады іх развівалі і прыстасоўвалі да сцэны.

**— Чаму скончыўся „Васілёк”?**

— У час Савецкага Саюзу мала хто ведаў пра Беларусь — лічылі, што гэта Расея! „Васілёк”, раз’язджаючы па Амерыцы, праз выступы, праз беларускія народныя танцы інфармаваў амерыканцаў пра Беларусь і яе гісторыю. Мы ўсюды былі амбасадарамі Беларусі. Раздавалі ўлёткі, інфармацыі, расказвалі пра цяжкі і несправядлівы лёс нашага народа. Дык, калі аб’явілі незалежнасць Беларусі, мы падумалі, што цяпер ужо сама Беларусь пра сябе павінна расказваць свету. І неяк натуральна „Васількі” памаленьку пачалі займацца іншымі справамі і праблемамі.

**— Ад многіх гадоў спяваеш таксама ў царкоўным хоры. Як важна для Цябе царква?**

— Я належу да Беларускай праваслаўнай аўтакефальнай царквы, незалежнай ад іншых. Яна дае мне магчымасць маліцца і звяртацца да Бога на маёй роднай мове. Гэта мая царква.

**— Беларуская царква, беларускія танцы. А навокал Амерыка. Колькі часу заняло, каб адчуць сябе амерыканкай?**

— Калі я пабачыла і зразумела, што большыня людзей у Беларусі зрусіфікаваная, больш ведаюць і любяць расейскую культуру чым сваю беларускую, то прыйшла да высновы, што амерыканскі спосаб жыцця, які заснаваны на пашане да чалавека і на кіраванні правамі (*rule of law*) даў мне магчымасць быць тым, хто я ёсць — беларускай. І тады пачала больш свядома даражыць амерыканскай свабодай думкі і жыцця. І больш адчуваць сябе амерыканкай.

**— Ці гэта забірае сілу, каб рабіць нешта на карысць Беларусі?**

— Не.

**— А што б Ты параіла нашай моладзі?**

— Вучыцеся!!! Тое, што вам падабаецца і тое , што вам дасць добрыя заробкі ды вольнае і незалежнае жыццё. Будзьце выдатнікамі ў сваёй прафесіі. Бо тады не вы будзеце шукаць працу, а вам будуць яе прапанаваць і вы зможаце выбіраць. Помніце, што вы вучыцца будзеце якіх 15-20 гадоў, а жыць будзеце 80-90! Так што дайце гэтыя 20 гадоў добрай навуцы, каб далейшае ваша жыццё было лягчэйшае. І любіце самі сябе і ўсё сваё роднае!

**Барбара ПЯКАРСКАЯ**

# Знаёмяць з цікавымі людзьмі і важнымі месцамі, але, што найважнейшае, дапамагаюць развіваць нацыянальную тоеснасць.

Тоеснасць — так пра летнікі «Я нарадзіўся тут» гавораць бацькі дзяцей, якія ў іх удзельнічалі. Сёлета Аб'яднанне ў карысць дзяцей і моладзі, што вывучае беларускую мову ў Беластоку АБ-БА зладзіла выезд у пятнаццаты раз.



Зміцер КОСЦІН

— Калі нашы дзеці ездзілі на першыя летнікі, мы разумелі, што гэты час яны правядуць з карысцю для сябе, — згадвае летнікі беларуская журналістка **Валянціна Лаеўская**. Яе дзеці Аляксандр і Вольга ўжо некалькі гадоў, як скончылі ліцэй, вучацца і працуюць. — Дзеці, якія разам вывучалі беларускую мову ў школе, мелі магчымасць правесці час разам па-за яе сценамі. Яны таксама праводзілі час у беларускамоўным асяроддзі, якога часам не маглі знайсці ў звычайным штодзённым жыцці. Мне падаецца, што дзякуючы намаганням арганізатараў летніка дзеці атрымалі такую «прышчэпку» беларушчыны, якая заўважная і сёння. Моладзь, якая ўдзельнічала ў першых летніках «Я нарадзіўся тут» ды іншых формах пазашкольнай актыўнасці дагэтуль размаўляе між сабой на беларускай мове ў літаратурным ці дыялектным варыянце. Апрача таго, летнікі, што ладзіліся ў розных мясцовасцях Беласточчыны, давалі дзецям «бетоннага» Беластока магчымасць пазнаёміцца з родным краем. Мае дзеці, Аляксандр і Вольга яшчэ сёння згадваюць менавіта гэтыя выезды. Напрыклад, Аляксандр асабліва запомніў летнік у Такарах. Тады яны жылі ў старой школе, дзе маглі пачувацца вольна. Яны не баяліся нешта сапсаваць ці знішчыць, жылі шчыльна з прыродай, так нібы іх продкі ў сялянскай простай хаце. Месца таго летніка настолькі ўразіла Алеся, што мы спецыяльна паехалі ў тую вёску, каб проста яшчэ раз адчуць яе непаўторную атмасферу. Для нас, бацькоў, якія бачылі ў вачах дзяцей шчасце, было зразумела: час не праведзены дарма.

— Вучоба нашай Наталлі ў пачатковай школе нумар 4 у Беластоку была прыемнасцю, — працягвае **Валянціна Швед**. Яе дачка была сярод першых, хто распачынаў вывучэнне беларускай мовы ў Беластоку. — І без сумневу найбольш цешыць нас тое, што беларуская мова была не толькі адным са школьных прадметаў, а працягвала жыць і на шматлікіх дадатковых занятках пасля ўрокаў. Летнікі, выезды ў Беларусь, тэатральныя заняткі... Нашых дзяцей навучылі ўпэўнена стаяць на сцэне і камунікаваць з людзьмі. Калі гаварыць пра летнікі, дык апрача таго, што яны гуртавалі дзяцей і знаёмілі іх бліжэй

адно з адным, вартасць іх заключаецца ў дапамозе больш пазнаць беларускую культуру ў яе натуральным асяроддзі. Вандруючы з году ў год па розных куточках Беласточчыны і ладзячы сустрэчы з рознымі цікавымі людзьмі, арганізатары далі нашым дзецям магчымасць будаваць і развіваць сваю ўласную тоеснасць.

— Мы не заўсёды маем час і веды, каб распавесці нашым дзецям пра нашу культуру і гісторыю, а летнікі якраз дапамагаюць развіваць нацыянальную свядомасць дзяцей, — мяркуе **Яланта Лукашэвіч**. Яе дачка Агата ўжо шосты год вывучае беларускую мову ў пачатковай школе нумар 4 у Беластоку. — На ўроках не заўсёды ёсць час на сустрэчы з цікавымі людзьмі, не заўсёды можна паказаць і дакрануцца да беларускіх слядоў, якіх на Беласточчыне вялікая колькасць. Сёлета, напрыклад, летнік старэйшай групы дзяцей праходзіў у Гайнаўцы, дзе яны маглі даведацца пра цікавыя і важныя беларускія месцы ў гэтым горадзе пры пушчы: беларускі ліцэй, музей, вуліцы нашых паэтаў Янкі Купалы і Якуба Коласа... Пасля летніка Агата ганарылася тым, што самастойна стварала ўзоры для ручніка ды зацікавілася гісторыяй...

— Крыху нават зайздрошчу сваім сынам, якія з дзяцінства праз розныя формы пазашкольнай актыўнасці ўжо будуюць сваю беларускасць, — кажа мастак **Міраслаў Здрайкоўскі**. Сам ён неаднойчы прымаў удзел у летніках, як госць і заўважае, што яны таксама даюць магчымасць перадаць культурны і гістарычны даробак беларусаў Беласточчыны маладому пакаленню. — У майго пакалення не было магчымасці ўжо з малых гадоў выхоўвацца свядомымі беларусамі. Мы толькі ў больш сталым веку пачалі даходзіць рознымі шляхамі да нашай тоеснасці. Я ўсвядоміў сябе беларусам канчаткова дзякуючы ўдзелу ў тэатральным гуртку «Парнас», які паказваў новую прастору для беларускай мовы, якая дагэтуль асацыявалася з не заўсёды цікавымі школьнымі занняткамі. Практыкаванні па беларускай мове і абавязковая літаратура свайго часу не заахвочвалі мяне да пазнання самога сябе так, як зрабіў гэта тэатр. Сёння мае сыны ўдзельнічаюць у тэатральных занятках, спяваюць, танцуюць, выязджаюць на летнікі і гэта закладзе падмуркі таго, што яны не будуць саромецца беларускасці ў будучыні.

**Зміцер КОСЦІН**



Такары 2005 г.

# Добрыя практыкі

У этнаграфічным летніку *Я нарадзіўся тут* прымаюць удзел вучні, якія вывучаюць беларускую мову ў Беластоку. Ладзім іх з 2004 г. у розных мясцовасцях Беласточчыны, у якіх жывуць карэнныя беларусы. Адбыліся ўжо летнікі ў Белавежы (2004), Такарах і Сацах (2005), Ягуштове (2006), Семяноўцы (2007, 2016), Гарадку (2008), Тэрэмісках (2009, 2014), Крыўцы (2010), Бабіках (2011), Дубічах-Царкоўных (2012), Кляшчэлях (2013), Ляўкове (2015, 2016, 2017), Гайнаўцы (2017).



Аліна ВАЎРАНЮК

Удзельнікі летнікаў пазнаюць гісторыю, прыроду і культурную спадчыну мясцін, у якіх гасцююць. Ладзім таксама сустрэчы з народнымі мастакамі і цікавымі людзьмі, якія жывуць у месцы правядзення летніка. Арганізуем экскурсіі па наваколлі і майстар-класы па народных рамёствах: саломапляценні, вышыванні, выцінанцы, пляценні паяскоў. Вывучаем народныя і сучасныя беларускія песні. Ставім тэатральныя пастаноўкі. На заканчэнне кожнага летніка яго ўдзельнікі прэзентуюць свае веды і ўменні сямейнікам і мясцовым жыхарам.

Першы этнаграфічны летнік *Я нарадзіўся тут* мы зладзілі ў 2004 годзе ў Белавежы. Прыдумалі яго, каб пашырыць магчымасці беларускай адукацыі, каб супольна з нашымі найстарэйшымі ў той час вучнямі правесці тыдзень канікулаў. Вядома, маладым павінна здавацца, што яны толькі гуляюць. Я ведала, што галоўным метадам працы з дзяцьмі і моладдзю павінна быць гульня. Раней я вяла тэатральны гурток, ездзіла на Сустрэчы „Зоркі" і бачыла, як многа можна зрабіць з вучнямі, калі маеш амаль неабмежаваны час на працу з імі. А час на гэтым летніку яны праводзілі ў асноўным з Уршуляй Вашкевіч (цяпер Іванюк) і са мной. Мы не толькі адпачывалі пасля навучальнага года, але перш-наперш знаёміліся з геаграфіяй, прыродай, гісторыяй, матэрыяльнай і культурнай спадчынай гэтай часткі нашай Малой айчыны.

Ужо тады мы зразумелі, што галоўнае — ведаць і пазнаваць мясцовых людзей, якія самі могуць цікавае расказаць, але і падкажуць, каго яшчэ можна запрасіць на заняткі. І так, на першым летніку пра багатую гісторыю Белавежы і прыроду Белавежскай пушчы распавядаў Анджэй Кэчынскі. Паказаў нам цікавыя слайды, пайшоў з намі пушчанскім шляхам „Рэбры зубра", у запаведнік і белавежскі музей. Анджэй і яго жонка Эва паказалі нам тое, што засталося ад багатага царскага палацавага комплексу, царкву, мясцовыя могілкі і скансэн. Дарафей Фёнік знаёміў нас з ваколіцай Белавежы. Расказаў пра архітэктуру, характэрную забудову пушчанскіх вёсак, паказаў прыгожыя старыя хаты і цэрквы. Дарафей і яго сястра Аня расказалі нам пра багаты беларускі фальклор, звязаны з сенакосам, зажынкамі і дажынкамі. Навучылі нас некалькі абрадавых песень і карагодаў. Мы супольна зладзілі абрад „Куста". Марыя

Нічыпарук вучыла нас выцінанцы. Паказала як рабіць прыгожыя кветкі з паперы. Івона Марціновіч доўга і падрабязна распавядала нам пра лён, палатно, кросны, дываны, ручнікі, настольнікі, кашулі, спадніцы, нагавіцы, беларускую вышыўку, яе колеры і сімволіку. Мы таксама ладзілі вогнішчы і беларускія дыскатэкі, гулялі з глінай, малявалі кашулькі. Кожны дзень працавалі ў розных групах, а на вечар ладзілі незабыўныя прэзентацыі.

Ёсць яшчэ адна асоба, пра якую маем выключна цёплыя ўспаміны: Валянціна Бармута, белавежанка, якая цэлы тыдзень рыхтавала нам вельмі смачныя абеды. Яна дапамагала нам таксама ва ўсіх кухонных справах. А снеданні і вячэры рыхтавалі мы самі, групамі, дзякуючы бацькам-спонсарам (Міраславу Пякарскаму і Яраславу Муську), якія падаравалі на летнік шмат прадуктаў.

Досвед у арганізацыі першага летніка дапамог нам у арганізацыі чарговых. А трэба сказаць, што мы, ладзіўшы яго, увогуле не думалі пра чарговыя, не планавалі працягу. Але я бачыла, колькі карысці ён прынёс маім вучням і колькі мне як настаўніцы. Мы проста палюбілі супольныя выезды і таму іх арганізуем кожны год.

У 2005 годзе былі ўжо два летнікі. Старэйшыя вучні паехалі ў Такары (месца нараджэння Усевалада Ігнатоўскага) Мельніцкай гміны, а малодшыя ў Сацы Нарваўскай нміны. З прапановай другога летніка звярнуўся да нас Яраслаў Лукашук. Ён даў нам у карыстанне хату на вёсцы, а мы ўзялі на тыднёвы летнік яго дачку з Варшавы. З таго года так пайшло, што арганізуем два асобныя летнікі: для малодшых і старэйшых вучняў. Па-першае, таму, што маем шмат ахвотных, а падругое — і гэта галоўнае — так лягчэй і больш эфектыўна працаваць, бо можна прапанаваць адпаведныя для ўзросту дзяцей тэмы і формы заняткаў.

За ўсе гэтыя гады я выпрацавала стандарты, якія паўтараю кожны год. Вядома, уводжу нешта новае, але прынцыпы не мяняюцца.

Хачу падзяліцца з Вамі сваім вопытам, бо арганізую і вяду летнікі з самога пачатку. Пастараюся распавесці пра тое, як выглядае дзень на летніку, запрапаную прыкладныя заняткі, метады працы.

Першыя арганізацыйныя заняткі пачынаю з супольнага рэдагавання кантракту. Запісваю яго на вялікай паперы, усе пад ім падпісваюцца. Кантракт вісіць да канца летніка на сцяне ў зале, дзе праводзім заняткі (калі трэба, на працягу тыдня прыпамінаем сабе яго запісы). Побач вісіць *Распарадак дня* (трошкі іншы ў малодшых). Часцей за ўсё ён такі:

$8^{00}$ — фіззарадка
$8^{30}$ — снеданне
$9^{30}$-$11^{00}$ заняткі
$11^{30}$-$13^{00}$ заняткі
$13^{30}$ — абед
$14^{30}$-$16^{00}$ заняткі
$16^{30}$-$18^{00}$ заняткі
$18^{30}$ — вячэра
$19^{30}$ — у старэйшых прэзентацыі або фільм, сустрэча і г.д.
У малодшых фільм або чытанне.

Часам робім яшчэ падвячоркі.

Калі выходзім на шпацыр, едзем на экскурсію або на заняткі ў іншае месца, наш план крыху мяняецца. Кожны ранак інфармую вучняў, чым будзем займацца на працягу цэлага дня.

Завешваем на сцяне распіску дзяжурстваў (дапамога ў кухні або падрыхтоўка снедання, вячэры). У малодшых завешваю таксама „каляндар". Карткі з датамі на кожны дзень. На заканчэнне дня кожны, хто хоча, можа на картцы напісаць або нарысаваць, як мінуў яму дзень. Са старэйшымі таксама завяршаем дзень размовай або прэзентацыямі.

Удзельнікі летніка кожны год дастаюць у карыстанне свой дзённік для нататак, у ім запісваюць тэксты песень, свае ўражанні і г.д.

На кожным летніку вучым дзяцей вышыўцы крыжыкам. Раней рыхтую ўзоры. На летніку ў 2016 годзе ў Семяноўцы ахвотныя старэйшыя вучні „шнурочкам" вышывалі макаткі. Шылі таксама

выкарыстоўваючы розныя тэхнікі вышыўкі. У гэтым годзе ўсе ўдзельнікі са старэйшай групы вышывалі аднолькавыя міні-ручнічкі.

Моладзь вучылася ў час летніка вязаць кручком (шыдэлкам). Былі майстар-класы па выцінанцы. Можна пакарыстацца дапамогай мясцовых майстроў. У нас былі цікавыя заняткі, на якіх вучні ляпілі з гліны, рабілі кветкі з тонкай паперы (бібулы), выпальвалі карціны на дошчачках. Дзякуючы знаёмству з Валянцінай Лойка з Менска былі заняткі па саломапляценні і пляценні паяскоў. Усё залежыць ад таго, з кім наладзіце кантакт і каго запросіце на заняткі.

Са старэйшымі вучнямі мы наведвалі нашых мастакоў, паэтаў, пісьменнікаў, гісторыкаў, журналістаў або ладзілі з імі сустрэчы (Надзея Артымовіч, Лена Глагоўская, Сакрат Яновіч, Уладзімір Гайдук, Павал Грэсь, Раман Васілюк, Мікола Ваўранюк, Барыс Руско, Юрка Туронак, Віктар Кабац, Міхась Андрасюк, Уладзімір Навумюк, Славамір Смык, Лявон Тарасэвіч, Адам Вайрак, Аляксандр Гжыбэк, Міраслаў Здрайкоўскі).

Часта карыстаемся дапамогай Дарафея Фёніка як экскурсавода і краязнаўца. На занятках часта спяваем, пазнаем мясцовы фальклор.

# Прапановы заняткаў у час летніка

- У першы дзень можна прапанаваць вучням намаляваць герб, які можа вісець на дзвярах кожнага пакоя; тады група гэта яго жыхары. Можаце проста падзяліць вучняў на групы па 4-5 асоб. Кожная група свой герб дзеліць на чатыры часткі. Трэба каб усе ў групе вырашылі і далі адказы на пытанні: Які наш любімы колер? Як любім праводзіць свабодны час? Якая наша любімая страва? Чаго баімся? Адказы ў форме сказаў або малюнкаў запісваем (малюем) у чарговых частках герба. Пасля заканчэння працы кожная група прэзентуе свой герб.

- Першы дзень гэта час на тое, каб пазнаёміцца з месцам, у якім будзем праводзіць час. Потым пазнаць мясцовасць, яе выгляд, геаграфію, прыроду. У гэтым часта дапамагалі нам мясцовыя настаўнікі беларускай мовы або проста мясцовыя жыхары.
  Пасля супольнай экскурсіі прапаную дзецям выканаць у групах макету наваколля. Здаралася мне прапанаваць іншую працу. Большасць нашых вёсак мае адну вуліцу. Патрэбная доўгая на 4-5 метраў вузкая папера (можна склеіць „шэрую паперу"). Вяду з дзяцьмі размову пра выгляд мясцовасці, малюю пасярэдзіне паперы доўгую вуліцу, з двух канцоў паперы малюю ўказальнікі з назвай мясцовасці. Дзялю вучняў на групы па 4-6 асоб у кожнай і вызначаю месца, у якім група малюе свой фрагмент. Працу лепш маляваць фарбамі, але можна спалучыць розныя тэхнікі.
  На летніку ў Тэрэмісках вучні рабілі дамы, дрэвы, платы і г.д. з цеста. Потым прэзентавалі свае „вёскі" на заканчэнне летніка.
  Колькі радасці было на гэтых занятках, а колькі пасля таго як „паставілі вёску"!

- Часам пачынаю заняткі на летніку тэхнікай няскончаных сказаў. Кожны ўдзельнік падыходзіць да чарговых картак і канчае распачаты сказ. Прыклады сказаў: Еду на летнік, бо... Спадзяюся, што на летніку будзе... Хачу, каб у час летніка... Думаю, што летнік гэта...

- Я часта праводзіла на летніках інтэграцыйную гульню „Плямёны". Трэба падзяліць усіх на 4 групы. Кожная з іх мае свой колер (чырвоныя, жоўтыя, сінія, зялёныя). Вызначаем час, на працягу якога кожная група рыхтуе сваю сімволіку (герб, сцяг, гімн), сваю вопратку, мапу краіны і г.д. Пасля таго робім прэзентацыю „плямёнаў". Да гэтай гульні трэба падрыхтаваць шмат розных матэрыялаў.

- Іншая версія гэтай гульні такая. Дзялю вучняў на 4 групы даю кожнай картку з тэкстам.

    1. Вы племя „Сонечныя". Ваша краіна ўраджайная, сонечная, цёплая і зялёная. Уладараць у ёй жанчыны.

    2. Вы племя „Дажджавыя". Ваша краіна халодная, гарыстая, амаль увесь час ідзе дождж. Людзі жывуць наогул 20-45 гадоў.

    3. Вы племя „Ледзяныя". Ваша краіна халодная, амаль усюды снег і лёд. Уладараць у вас мужчыны.

    4. Вы племя „Пустынныя". У вашай краіне толькі дзве поры года: сухая і мокрая. Жыхары вашай краіны доўга жывуць.

Задача кожнай групы апісаць традыцыі і абрады свайго народа, вызначыць законы і правы. Кожная група апісвае жыхароў сваёй краіны (што яны любяць, чаго не любяць, як праводзяць свабодны час). Трэба таксама прыдумаць сімволіку краіны, традыцыйныя хаты, стравы, нацыянальныя святы, прафесіі. Трэба вызначыць як жыхары краіны ставяцца да дзяцей, а як да старэйшых і гэтаму падобнае.

Пасля прэзентацыі кожнай краіны інфармую вучняў, што здарылася няшчасце. У выніку катастрофы жыхары кожнай краіны пакінулі свае месцы жыхарства і апынуліся на Нічыёй Зямлі. На поўначы гэтай зямлі вельмі цёпла, на поўдні страшэнны холад, мароз. На ўсходзе нізіна, на захадзе высокія горы. Групы павінны вырашыць, дзе ім жыць. Трэба прыдумаць новыя святы, абрады, законы. Адным словам час, каб пачаць перамовы. Пасля вызначанага часу вучні прэзентуюць вынікі сваіх супольных дагавораў.

- Некалькі разоў на летніках я чытала казку пра Мядзведзя. Гэта добры тэкст, каб правесці размову на тэму: „Іншы не значыць горшы". Пагаварыць пра нашу сітуацыю. Кожны раз моладзь дзялілася сваімі ўражаннямі ад пачутай гісторыі і ў групах апісвала героя.

## Мядзведзь, якога не было[1]

Аднойчы, а быў гэта якраз чацвер, Мядзведзь прыйшоў да высновы, што прыспеў час, каб пайсці ў пячору і заснуць зімовым сном. Як прыдумаў, так і зрабіў. Неўзабаве, у сераду, ля пячоры з'явіліся рабочыя. Навіслі як хмара над зямлёй і пачалі пабудову вялікага завода.

Пасля доўгай зімы на свет завітала вясна. Мядзведзь прачнуўся і выйшаў са сваёй пячоры. Яго вочы пакругелелі ад здзіўлення:

Дзе ж мой лес?

Дзе ж мая трава?

Дзе ж мае дрэвы?

Што тут здарылася?

— Я яшчэ сплю? — сказаў сабе самому Мядзведзь. — Вядома, гэта сон!

Але гэта не быў сон. З завода якраз выйшаў Майстар.

— Эх, ты! — крыкнуў. — Бярыся за працу!

Мядзведзь на гэта: — Я тут не працую. Я Мядзведзь.

Майстар засмяяўся: — Гаварыць, што ты Мядзведзь, гэта надта добрае апраўданне чалавека, якому не хочацца брацца за працу, гультаю. — Усмешка прапала з Майстравага твару. Ён быў злосны. — Не прабуй насміхацца з мяне, — сказаў, — ты не Мішка, а чалавек, якога трэба пабрыць і распрануць з футра. Я павяду цябе да Галоўнага Менеджара.

Галоўны Менеджар таксама быў упэўнены, што Мядзведзь — дурны чалавек, якога трэба пабрыць і распрануць з футра. Мядзведзь сказаў: — Вы памыляецеся. Я Мядзведзь. Галоўны таксама быў надта злосны. Мядзведзь ветліва сказаў яму:

— Прабачце, мне вельмі прыкра гэта слухаць. Зразумейце, я — Мядзведзь.

Трэці Намеснік Дырэктара быў яшчэ больш злосны!

Другі Намеснік Дырэктара быў больш чым злосны. Быў проста раз'юшаны!

Першы Намеснік Дырэктара проста выў са злосці! Крычаў: — Ты не Мядзведзь!!! Ты дурны чалавек, якога трэба пабрыць і распрануць з футра!!! Пайшлі да Галоўнага Дырэктара!

Мядзведзь хацеў апраўдацца: — Гэта нейкая страшная памылка. Я ж заўсёды быў толькі Мядзведзем.

Дакладна тое ён сказаў Галоўнаму Дырэктару.

— Дзякуй табе, за ўсё сказанае, — сказаў Галоўны, — але ты не можаш быць Мядзведзем. Мядзведзі жывуць толькі ў заапарках і цырках. Іх не бывае на заводах. Таму, як гэта магчыма, каб ты быў Мядзведзем?

Мядзведзь сказаў яму: — Усё ж я Мядзведзь!

Галоўны, Намеснік і Мядзведзь селі на машыну і паехалі ў заапарк.

Мядзведзі ў заапарку сказалі Мядзведзю, што ён не мядзведзь, бо калі б быў Мядзведзем, сядзеў бы ў клетцы. Мядзведзь упарта сцвярджаў, што ён Мядзведзь.

Пакінулі заапарк і падаліся ў цырк.

— Гэта Мядзведзь? — пытаў цыркавых мядзведзяў Галоўны. Цыркавыя мядзведзі запярэчылі. Калі б гэты „нехта" быў мядзведзем, катаўся б на ровары навокал арэны ў малым капелюшы на галаве або акружаў арэну на вялікім мячыку.

Мядзведзь надалей гаварыў, што ён Мядзведзь. Калі Галоўны Дырэктар і ягоны Намеснік вярнуліся на завод, прымусілі Мядзведзя працаваць за вялікай машынай, так як

1 За: „Edukacja międzykulturowa. Poradnik dla nauczyciela", red. A. Klimowicz, wyd. CODN, Warszwa 2004, s. 57-58.

усіх астатніх рабочых. Працаваў ён многа, многа месяцаў. Пасля некалькіх гадоў завод зачынілі і ўсе работнікі пайшлі хто-куды. Мядзведзь сышоў адзін з апошніх. Калі пакінуў завод, пабачыў, што гусі ляцяць на поўдзень, што з дрэў ападаюць лісткі.

„Ідзе зіма", — падумаў. А гэта быў час, каб заснуць надоўга. Мядзведзь знайшоў пячору, але раптоўна затрымаўся перад уваходам у яе.

— Не магу ўвайсці ў пячору. Я не Мядзведзь. Я дурны чалавек, якога трэба пабрыць і распрануць з футра.

Пакуль не прыйшлі маразы і не пачаў ісці снег, Мядзведзь сядзеў побач пячоры і тросся ад холаду.

„Я так хачу быць мядзведзем", — падумаў. Раптоўна ўстаў і пакрочыў праз глыбокі снег проста ў пячору. Тут было добра і ўтульна. Сцюдзёны вецер і халодны-халодны снег засталіся звонку. Яму стала цёпла. Лёг на сухія лісткі і неўзабаве заснуў, сніўшы салодкія сны, як і ўсе мядзведзі.

Таму, калі нейкі Майстар, Галоўны Менеджар, Трэці Намеснік, Другі Намеснік, Першы Намеснік, Галоўны Дырэктар, Мядзведзі з заапарку і Мядзведзі з цырка гаварылі яму, што ён дурны чалавек, якога трэба пабрыць і распрануць з футра, не думаю, каб ён ім паверыў. А што ты думаеш?

Не..., сапраўды..., сапраўды ён ведаў, што ён не дурны чалавек і таксама не дурны Мядзведзь.

Пасля прэзентацыі прац пра героя казкі прапаную вучням зрабіць з карткі белай паперы чалавека. Кажу, каб працавалі без нажніцаў, каб выдзіралі постаць. Пасля яны пішуць на постаці пра сябе: што любяць есці, што іх цікавіць, любімы занятак, колер вачэй і г.д. Завешваем гэтыя працы. Вызначаем падабенствы або адметнасці.

- Чарговыя заняткі з казкаю даюць магчымасць размовы пра нашы правы. Дзялю ўсіх на дзве групы: „велікanaў" і „гномаў". Чытаю ім тэкст[2] і прашу, каб кожная з груп вызначыла спецыяльныя правы для „гномаў". Пасля гэтага вядзем размову пра запісанае групамі.

У Выдумляндыі, пасля таго як Велікан Вялікі сышоў у адстаўку і ўладу ўзяла кааліцыя Вырвідуба Мяккага, Гномы вырашылі, што прыйшоў іх час. Годзе ім было шматгадовых пакут і дапасоўвання да Веліканаў. Праўда, яны ўжо амаль 1000 гадоў былі грамадзянамі Выдумляндыі, аднак за сотні гадоў было шмат прыкладаў неталерантнасці ў адносінах да іхняй меншасці. Хаця краіна вяла асіміляцыйную палітыку, Гномы адчувалі сваю недаступнасць да высокіх пасад. У іх было шмат клопатаў, звязаных з арганізацыяй славутых Фестываляў гномавага мастацтва. Іхнія дзеткі былі вымушаны вучыцца хадзіць на ходулях, каб у дарослым жыцці мець магчымасць абладзіць свае справы. Рэдакцыя „Голасу малечы", адзінай штодзённкі Гномаў, была гатовая спыніць сваю працу з-за нястачы дзяржаўнай датацыі.

У сувязі з гэтымі падзеямі пачаўся незвычайны рост грамадскай актыўнасці гэтай невялікай групы жыхароў Выдумляндыі. „Кіньце ходулі!!!", „Веліканы на калені!", „Дамагаемся меншых памераў!!!" — лозунгі Гномаў пачалі з'яўляцца ў многіх публічных месцах.

Спачатку Веліканы не звярталі ўвагі на жыхароў, якія, шчыра кажучы, путаліся ім пад нагамі, а свае транспаранты насілі на вышыні іхніх веліканскіх кален. Аднак дэмакратызацыя жыцця ў Выдумляндыі давяла да таго, што ўрадавая кааліцыя пачала прыстасоўваць законы сваёй краіны да тых, якія шмат гадоў абавязвалі ва ўсім казачным свеце. Вырашылі запрасіць прадстаўнікоў Гномаў да супольных дэбатаў.

2 Op. cit., s. 313-314.

- Гэтую гульню я праводзіла тры разы з найстарэйшай моладдзю. Яна патрабуе шмат часу і падрыхтаваных матэрыялаў, слоўнікаў, кніжак, энцыклапедыі. Патрэбных столькі груп, колькі маем станцый. Я прапаную тут пяць. Кожная станцыя гэта асобны стол з вызначаным заданнем і патрэбнымі для яго выканання дапаможнікамі. Кожная група павінна па чарзе прайсці ў вызначаным часе ўсе станцыі і выканаць заданні. Прыкладны час для кожнай задачы 20-25 хвілін. Я інфармую, калі час канчаецца і групы мяняюцца месцамі. Такія вось станцыі праходзілі мае вучні.

**Станцыя першая**
Апішыце хату з ваколіц Белавежы. Можаце выканаць рысунак. Чым яна характэрная?

**Станцыя другая**
Назавіце прылады, якія былі неабходныя кожнай гаспадыні. Можаце выканаць рысункі.

**Станцыя трэцяя**
Прачытайце верш Андрэя Сцепанюка „Не плач Айчына" і выканайце малюнак да яго.

**Станцыя чацвёртая**
Напішыце, дзе жывуць і што робяць: дамавік, лесавік, вадзянік, пушчавік. Як яны выглядаюць? Можаце выканаць рысункі.

**Станцыя пятая**
Падумайце, якія падзеі прадстаўлены на карціне. Што там адбываецца? Якія там людзі? Хто яны? Напішыце. (Я падрыхтавала здымак бежанцаў 1915 года.)




Тэрэміскі 2014 г.



Ляўкова 2015 г.

У час летнікаў мае вучні многаму вучыліся і рабілі на занятках цудоўныя працы. Іхнія прэзентацыі на заканчэнне дня былі непаўторныя. Яны рабілі плакаты, дэкламавалі свае рыфмаванкі, спявалі прыдуманыя песні. Падрыхтавалі ў групах цікавыя гульні, а нават выканалі беларускія скраблі. На апошнім летніку выканалі класныя *пікчэрбукі*. Дзякуючы іхняй ангажаванасці і нам дарослым хочацца арганізаваць чарговыя выезды.

З 2009 г. вучні ездзяць на летнікі без мабільных тэлефонаў. А я ўжо пару гадоў кожны вечар на летніку „паказваю" ў фейсбуку, чым мы займаемся кожны дзень, устаўляю здымкі.



Семяноўка 2015 г.

Вядома, наша Аб'яднанне АБ-БА можа арганізаваць летнікі дзякуючы фінансавай падтрымцы Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі, а таксама Маршалкоўскай управе Падляшскага ваяводства. Бацькі за пабыўку сваіх дзяцей плацяць невялікія грошы, бо пабыўка на летніку гэта форма ўзнагароды за працу вучняў на ўроках беларускай мовы і пазаўрочных занятках. Але ж карыстаемся таксама дапамогай войтаў паасобных гмін, дырэктараў школ і шчодрасцю спонсараў. Шукайце ў сваім асяроддзі людзей, якія Вам дапамогуць і арганізуйце сваім дзецям, вучням такія выезды. Гэта карысна і вучням, і Вам, бацькам, настаўнікам.

Больш здымкаў з летнікаў знойдзеце на сайце Аб'яднання АБ-БА: www.ab-ba.com.pl.

**Аліна ВАЎРАНЮК**

**PS.**

Даўно, даўно таму назад жыў у Любліне, а можа непадалёк ад яго, у адным з тых мястэчак, якія звалі штэтл, стары і разумны рабін. Кожны раз, калі збіраўся ў падарожжа (нават у бліжэйшы штэтл) браў з сабою вялізную сумку, у якую, як сам гаварыў, забіраў „увесь свой свет". Аднойчы стары рабін сабраўся ў далёкае падарожжа. Калі быў на мяжы, мытнік звярнуў увагу на яго багаж.

— Што вы везяце? — спытаў.

— Як гэта, што? Увесь мой свет, — сказаў рабін.

— Кажаце, увесь свет? Дык адчыніце, калі ласка, сумку.

І што ж было ў сярэдзіне? Не паверыце. Сярод старых, тоўстых, разумных габрэйскіх кніг было некалькі зусім дзіўных прадметаў. Палявы каменьчык непаўторнага колеру, мяшочак з чорнай зямлёю, засушаныя кветкі, лісткі і мох...

— Што гэта? — пытаў здзіўлены мытнік.

— Як гэта, што? Увесь мой свет. Паколькі я не змог узяць з сабою ўсяго Любліна, узяў яго адну жменьку. А жменька — гэта вельмі часта тое, што і ўсё. Праўда? Жменька гэта часта ўсё...[3]

[3] Гісторыя пачутая на спектаклі „Opowieści z Bramy — Tajbełe i jej demon" у выкананні Вітольда Дамброўскага з Асяродка „Brama Grodzka Teatr NN".



Ляўкова 2016 г. з Міхалам Ксёнжкам

Андрэй ХАДАНОВІЧ

## НАТАТКІ ТАТКІ

Татка сеў пісаць нататку,
А малая — скок на татку.
Цап яго за бараду:
Беражыся — я іду!

Тата, тата, татка, хто спаймае мячык?
Тата, тата, татка, я хачу да качак!
Паляцець, як Віні Пух!
Лепей, татачка, удвух!

Паглядзець на ліхтары,
Пакатацца на шары!
Пагайдацца ў парасоне,
Рыцца лыжкай у вазоне!

Тата, тата, татка, хто спаймае мячык...

Татка, дай зубную шчотку!
Пакажы вунь тую фотку!
А цяпер здымі з каня
І спявай пра зубраня!

Тата, тата, татка, хто спаймае мячык...

Ой, парваўся мой блакноцік!
Што за лужына? Кампоцік!
З'ела на вячэру блін,
Крэйду, фарбу, пластылін...

Тата, тата, татка, хто спаймае мячык...





## МАМА ХВАЛЮЕЦЦА

Мама хвалюецца — раз:
Нехта залез пад матрац.
Мама хвалюецца — два:
Выцягні бот з рукава!

Мама хвалюецца — тры:
Цацкі ў пакоі збяры!
І не раскідвай гарох!
Мама ўжо лічыць да трох.

Гэтыя чорныя дзіры
Зноў на каленках... Чатыры!
Мама хвалюецца — пяць:
Спі! Нават бэйбусы спяць!

Зранку — хто кашы не есць?!
Зранку — хто кашы не есць?!
Зранку — хто кашы не есць?!
Мама хвалюецца — жэсць!

## КОРМІМ КАЧАК

Дапіваю смачны сок —
І рыхтуйце мне вазок.

**Прыпеў:** Вуць-вуць-вуць, кра-кра-кра! —
Качак пакарміць пара.
Кра-кра-кра, вуць-вуць-вуць! —
Качкі да мяне плывуць.

Пад'язджаю да вады:
Хто не еў — хутчэй сюды!

**Прыпеў:** Вуць-вуць-вуць, кра-кра-кра!...

Пад'ядаюць белы хлеб —
Гэткі апетыт і мне б!

**Прыпеў:** Вуць-вуць-вуць, кра-кра-кра!...

Паспяшайцеся, абы
Ўсё не з'елі галубы!

**Прыпеў:** Вуць-вуць-вуць, кра-кра-кра!...



## КАПЯЛЮШ

Бяру штаны — іду да таткі:
„Хутчэй кідай свае заняткі!"
Пасля бяру за палец маму:
„Хадзем па капялюш у краму!"

**Прыпеў:** Дзяўчынка вырасла з пялюшак —
Дзяўчынцы трэба капялюшык!
Каб нават недачэпа Косця
Заўважыў і прыйшоў у госці.

Каб я была ў ім суперзорка
Заўважыла мяне ўся горка.
Каб ад красы маёй абноўкі
Засумавалі ўсе сяброўкі.

**Прыпеў:** Дзяўчынка вырасла з пялюшак...

## КАШТАНЫ

З вышыні на лісцяў кучы
Падаюць каштаны.
Кожны круглы і бліскучы —
Абмінуць складана!

**Прыпеў:** Хто не ўлез, у жменьку возьмем -
І сабрана рэшта:
Два ў зубах, у ручках восем,
І ў вазочку нешта.

Кожны разаб'е аб сцежку
Летні свой каптанік.
Скінь калючую адзежку,
Вылязай, каштанік!

**Прыпеў:** Хто не ўлез, у жменьку возьмем...

У мяне іх многа-многа,
Болей, чым у таты.
Набяру — і з перамогай
Вернемся дахаты.

**Прыпеў:** Хто не ўлез, у жменьку возьмем...

Дома сумаваць не стану,
Будзе суцяшэнне:
У мяне цяпер каштанаў
Поўныя кішэні.

**Прыпеў:** Хто не ўлез, у жменьку возьмем...

## ГРЫБЫ

Мчыць машына, дым з трубы —
З дзедам едзем у грыбы.
Шмат грыбоў, што ёсць у лесе,
У маё вядзерца ўлезе.

**Прыпеў:** Назбіраю шмат грыбоў,
У мяне да іх любоў.
Можа — сто, а можа — дзвесце,
Каб і татка мог пад’есці.

Адыходжу крок ад сцежкі,
Мне насустрач — сыраежкі.
Я бяру адну і дзве,
І яшчэ адна ў траве.

**Прыпеў:** Назбіраю шмат грыбоў...

А яшчэ грыбоў на ўзгорак
Пакладу я — для вавёрак,
Каб і тут было каму
Харчавацца ўсю зіму.

**Прыпеў:** Назбіраю шмат грыбоў...



## ПАЛЯВАННЕ Ў ВАННЕ

Я іду на паляванне:
Паляванне будзе ў ванне.
Там жывуць гумовы морж,
Рыба-кіт і рыба-ёрш.

**Прыпеў:** Эй вы там, хавайце пыскі!
Будзе мокра, будуць пырскі!
Хто са мной? Аддаць канцы!
Мы — цудоўныя нырцы!

Ёсць кальмары і дэльфіны,
І пінгвіны быць павінны!
Чарапах, вядома ж, тры.
І бабры, мае сябры.

**Прыпеў:** Эй вы там, хавайце пыскі...

Мышка туліцца да коткі —
Не ўцячэш з падводнай лодкі!
Разгайдаем ванну ўшчэнт,
Хто гайдаў — таму прэзент!

**Прыпеў:** Эй вы там, хавайце пыскі...

Накармлю маржа і крабіка
Кавай мамінай „Арабіка".
Напаю бабра і выдру
З татавай бутэлькі сідру.

**Прыпеў:** Эй вы там, хавайце пыскі!
Будзе мокра, будуць пырскі!
Хто прайграў падводны бой,
Прыбірае за сабой!



# ПАДРУЧНІКІ І ДАПАМОЖНІКІ

Шаноўныя сябры настаўнікі, у сувязі з многімі запытамі звязанымі з падручнікамі да навукі беларускай мовы прыпамінаем, што падручнікі заказвае дырэктар школы ў Кураторыі асветы ў Беластоку. Куратoрыя інфармуе Міністэрства адукацыі пра нястачу вышэйзгаданых дапаможнікаў. Пасля гэтага міністэрства падымае рашэнні, што зрабіць у гэтай справе.
Хочам таксама падказаць развязку, якую ўжо выкарысталі некаторыя школы. На старонцы **www.scholaris.pl** даступныя сцэнарыі ўрокаў і падручнікі, якія можна раздрукаваць вучням.

**Аб'яднанне ў карысць дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову АБ-БА выдала:**

- дзве версіі паказнога алфавіта,
- дыскі з беларускімі песнямі для I, II і III класаў,
- „Сцэнарыі ўрокаў беларускай мовы для I класа пачатковай школы" (дапаможнік),
- „Лемантар. Падручнік да навукі беларускай мовы для II класа пачатковай школы",
- „Кругагод. Падручнік да навукі беларускай мовы для III класа пачатковай школы".

Рыхтуем новыя выданні падручнікаў для II і III класаў пачатковай школы. Спадзяемся, што вучні атрымаюць іх у карыстанне ў верасні 2018 г.



**У сядзібе нашага Аб'яднання можаце атрымаць:**

- настольную гульню арфаграфічную „У або ў" (гульня для школьнікаў, якія вывучаюць правапіс „у" і „ў"),
- настольную гульню „Ад Буга за Нарву або падарожжа з Мельніка ў Ячна" (гульня для старэйшых вучняў, якія гуляючы вывучаюць тапаграфію і цікавыя месцы Беласточчыны),
- дыскі з беларускімі песнямі для I, II і III класаў,
- дыскі: „Васількі — валошкі" з песнямі на словы Віктара Шведа, „Сінязорка", „Звярынкі з глыбінкі" і „Нататкі таткі" з песнямі з нашага тэатральнага гуртка, „Лука — песні з глыбіні", 25 АБ-БА АРКЕСТР,
- — фільм „Гавораць беларусы Падляшша",
- — запіс спектакля „Ой, даўно, даўно... Беларускія гісторыі з Падляшша",
- — кніжкі: „Марылька", „Ой, даўно, даўно... Беларускія гісторыі з Падляшша"(другое выданне),
- — усе нумары метадычнага дапаможніка „Беларускі настаўнік".

На нашым сайце знойдзеце новы паказны алфавіт, тэатральныя сцэнарыі, метадычны дапаможнік „Беларускі настаўнік", інфармацыі пра ўсе нашы адукацыйныя праекты і мерапрыемствы.

**Аліна ВАЎРАНЮК**



# ЮРЫДЫЧНЫ АГЛЯД

Хачу засяродзіць Вашу ўвагу на законах, якія згодна з Распараджэннем Міністра адукацыі ад 18 жніўня 2017 г. абавязваюць усіх, хто займаецца навучаннем мове нацыянальных і этнічных меншасцей у Польшчы. Гэты дакумент пабачыў свет 30.08.2017 г., а ўвайшоў у сілу 1 верасня таго ж года.



Аліна ВАЎРАНЮК

У школе вядзецца не толькі навучанне мове нацыянальнай меншасці, але таксама навука ўласнай гісторыі і культуры, і навука геаграфіі.

*§ 1.2. Szkoły publiczne mogą prowadzić dla uczniów należących do mniejszości narodowych naukę geografii państwa, z którego obszarem kulturowym utożsamia się mniejszość narodowa, w wymiarze do 30 godzin na II etapie edukacyjnym i do 15 godzin w liceum ogólnokształcącym, technikum, branżowej szkole I stopnia, jeżeli organ prowadzący szkołę przyzna godziny na realizację tej nauki, zgodnie z przepisami wydanymi na podstawie art. 47 ust. 1 pkt 3 i ust. 4 ustawy z dnia 14 grudnia 2016 r. — Prawo oświatowe (Dz.U. z 2017 r. poz. 59 i 949), zwanej dalej „ustawą".*

Каб дзеці маглі падтрымліваць і развіваць пачуццё сваёй нацыянальнай, этнічнай і моўнай тоеснасці і вывучаць беларускую мову трэба іх запісаць у садок або ў школу. Памянялася дата да якой можна гэта зрабіць.

*§ 2.1. Naukę języka mniejszości lub języka regionalnego w przedszkolu oraz naukę języka mniejszości lub języka regionalnego i naukę własnej historii i kultury w szkole organizuje odpowiednio dyrektor przedszkola lub szkoły, na wniosek złożony przez rodziców dziecka lub ucznia albo pełnoletniego ucznia. Wniosek składa się w postaci papierowej.*

*2. Wniosek, o którym mowa w ust. 1, składa się dyrektorowi odpowiednio przedszkola lub szkoły, w terminie do dnia 20 września.*

*3. W uzasadnionych przypadkach, w szczególności gdy przedszkole lub szkoła dysponuje wolnymi miejscami, dyrektor odpowiednio przedszkola lub szkoły może przyjąć wniosek, o którym mowa w ust. 1, po terminie, o którym mowa w ust. 2.*

Але ж можна і выпісаць вучня з такіх урокаў.

*§ 2.6. Rodzice dziecka lub ucznia albo pełnoletni uczeń mogą złożyć oświadczenie o rezygnacji z nauki języka mniejszości, nauki języka regionalnego i nauki własnej historii i kultury. Oświadczenie składa się dyrektorowi odpowiednio przedszkola lub szkoły, nie później niż do dnia 29 września roku szkolnego, którego dotyczy rezygnacja. Złożenie oświadczenia jest*

*równoznaczne z zaprzestaniem udziału dziecka lub ucznia w nauce języka mniejszości, nauce języka regionalnego i nauce własnej historii i kultury.*

*7. Oświadczenie, o którym mowa w ust. 6, składa się w postaci papierowej.*

Раней не было ніякіх узораў заяў на навучанне мове нацыянальнай меншасці, а тым больш на адрачэнне ад навучання. Цяпер такія ёсць і бацькі могуць імі карыстацца.

*8. Wzór wniosku, o którym mowa w ust. 1, oraz oświadczenia, o którym mowa w ust. 6, określają załączniki nr 1 i 2 do rozporządzenia.*

Памяняўся таксама запіс пра колькасць дзяцей у садку і сярэдніх школах.

*§ 7.1. Nauka języka mniejszości lub języka regionalnego w formach, o których mowa w § 3 ust. 1 pkt 2 i 3 oraz § 4 ust. 1 pkt. 2 i 3, jest prowadzona w odrębnych oddziałach, jeżeli na naukę języka mniejszości lub języka regionalnego zostanie zgłoszonych:*

*1) w przedszkolu lub oddziale przedszkolnym w szkole podstawowej — co najmniej 14 dzieci;*
*2) w szkole — co najmniej 7 uczniów na poziomie danej klasy.*

*2. Jeżeli liczba zgłoszonych dzieci w przedszkolu lub oddziale przedszkolnym w szkole podstawowej jest mniejsza niż liczba określona w ust. 1 pkt 1, naukę języka mniejszości lub języka regionalnego prowadzi się wyłącznie w formie, o której mowa w § 3 ust. 1 pkt 1, dla grupy liczącej od 3 do 13 dzieci.*

*3. Jeżeli liczba zgłoszonych uczniów w szkole jest mniejsza niż liczba określona w ust. 1 pkt 2, naukę języka mniejszości lub języka regionalnego prowadzi się wyłącznie w formie, o której mowa w § 4 ust. 1 pkt 1, w grupie międzyoddziałowej lub międzyklasowej liczącej od 3 do 16 uczniów.*

*4. Tworzenie grup, o których mowa w ust. 3, odbywa się w ramach danego etapu edukacyjnego.*

Паменшала максімальная колькасць вучняў у міжшкольных групах.

*§ 8.5. Liczba uczniów w międzyprzedszkolnym lub międzyszkolnym zespole nauczania nie może być mniejsza niż 3 i większa niż 16.*

У новым Распараджэнні маем і такія запісы:

*§ 9.1. Za zgodą organu prowadzącego przedszkole lub szkołę liczba uczniów w oddziale, grupie, grupie międzyoddziałowej, grupie międzyklasowej, międzyprzedszkolnym i międzyszkolnym zespole nauczania może być mniejsza niż liczba określona w § 7 ust. 1-3 i § 8 ust. 5.*

*2. W uzasadnionych przypadkach organy prowadzące przedszkola lub szkoły mogą wspólnie prowadzić zespoły międzyprzedszkolne i międzyszkolne, ustalając w drodze porozumienia zasady ich prowadzenia.*

У новым Распараджэнні знойдзем запіс, як і раней, пра праграмы навучання, якія зацвярджае дырэктар школы, але няма запісу пра падручнікі.

Няма таксама інфармацыі пра мінімальную колькасць гадзін (minimalny wymiar godzin) на чарговых этапах навучання.

У дадатку № 3 да Распараджэння знойдзем тыднёвую распіску гадзін навучання. Гэта па тры ўрокі беларускай мовы ў кожным класе пачатковай школы і ліцэя. На навуку ўласнай гісторыі і культуры маем па 25 гадзін у год у пятым і шостым класах пачатковай школы і па 20 гадзін — у другім і трэцім класах ліцэя.

Маем таксама запіс пра гімназіі:

*§ 15. Do dotychczasowych gimnazjów, klas dotychczasowego gimnazjum prowadzonych w szkołach innego typu, dotychczasowych szkół ponadgimnazjalnych oraz klas dotychczasowych szkół ponadgimnazjalnych prowadzonych w szkołach ponadpodstawowych stosuje się przepisy rozporządzenia, o którym mowa w § 16, do czasu zakończenia kształcenia w tych szkołach i klasach.*

У гэтых школах абавязвае старое Распараджэнне ад 14.11.2007 г.

З'явіўся яшчэ запіс пра вучняў без польскага грамадзянства:

*§ 13. Sposób organizacji nauki języka i kultury kraju pochodzenia dla uczniów niebędących obywatelami polskimi określają przepisy wydane na podstawie art. 165 ust. 16 ustawy.*

Распараджэнне гаворыць пра абавязкі дырэктара школы!

*§ 6. Przed rozpoczęciem nauki języka mniejszości lub języka regionalnego oraz nauki własnej historii i kultury dyrektor szkoły informuje rodziców, którzy złożyli wniosek, o którym mowa w § 2 ust. 1, o:*

1. *celu prowadzonych zajęć i miejscu w tygodniowym rozkładzie zajęć;*

2. *informacjach odnotowywanych w dokumentacji przebiegu nauczania, na świadectwach szkolnych promocyjnych, świadectwach ukończenia szkoły oraz świadectwach dojrzałości — w przypadku udziału ucznia w zajęciach z języka mniejszości lub języka regionalnego;*

3. *warunkach i sposobie oceniania i klasyfikowania ucznia z zajęć z języka mniejszości lub języka regionalnego oraz nauki własnej historii i kultury, a także wpływie oceny z zajęć z języka mniejszości lub języka regionalnego na promowanie ucznia do klasy programowo wyższej oraz ukończenie szkoły;*

4. *uprawnieniach i obowiązkach uczniów przystępujących do egzaminu ósmoklasisty i egzaminu maturalnego oraz o wymaganiach egzaminacyjnych.*

**Аліна ВАЎРАНЮК**

# Змест

**Рэдакцыйная калегія:** Аліна Ваўранюк,
Яланта Грыгарук,
Ян Карчэўскі,
Яўгенія Таранта

**Карэктура:** Віталь Луба
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі

**Выдавец:** Аб'яднанне ў карысць дзяцей і моладзі,
якія вывучаюць беларускую мову АБ-БА

**Друк:** Intropack Jerzy Iwaniuk

Zrealizowano dzięki dotacji
Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji